ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!

Каталіцкі ВЕСНІК

№6 (75) чэрвень 2017 год

CATHOLICNEWS.BY

# Біскуп Алег Буткевіч асвяціў касцёл Святога Антонія ў Віцебску

Стар. 3

## Святы Губерт пасяліўся ў Камаях



Стар. 6

## Увага! Падпіска на другое паўгоддзе 2017 года!

**Кошт падпіскі:**

на месяц – **90 капеек**,
на 3 месяцы – **2 рублі 70 капеек**,
на 6 месяцаў – **5 рублёў 40 капеек**.
Зрабіць гэта можна
ў любым аддзяленні "Белпошты".

**Наш падпісны індэкс – 63783**

**Дарагія браты і сёстры!
Падпісваючыся на нашу газету,
Вы дапамагаеце нам абвяшчаць
Евангелле, расказваць людзям
пра Хрыста і яго Касцёл.**

**Больш навінаў пра каталіцкае жыццё
ў дыяцэзіі чытайце на *catholicnews.by***

## Біскупская візітацыя ў Лынтупах



Стар. 5

# Адкрыты ліст Мітрапаліта Тадэвуша Кандрусевіча лаўрэату Нобелеўскай прэміі спадарыні Святлане Алексіевіч

**Глыбокапаважаная Святлана Аляксандраўна!** Калі ў 2015 г. Вы атрымалі Нобелеўскую прэмію, я, прымаючы ўдзел у працы Сіноду Біскупаў на тэму сям'і ў Ватыкане, папрасіў слова і аб'явіў, што Вы сталі лаўрэатам самай прэстыжнай прэміі па літаратуры. І біскупы ўсяго свету Вам апладзіравалі!

Уся Беларусь таксама радавалася гэтай знакавай падзеі.

Сёння, знаходзячыся за мяжой на ўрачыстасцях біскупскіх пасвячэнняў новага Мітрапаліта Беластоцкага арцыбіскупа Тадэвуша Войды, я з вялікім смуткам і трывогай успрыняў Вашыя словы: "Дайце ў Беларусь танкі, зброю – і там каталікі пачнуць забіваць праваслаўных ці каго заўгодна".

З усёй упэўненасцю хачу падкрэсліць, што гэта нават немагчыма сабе ўявіць ў Беларусі, дзе гістарычна склаліся добрыя як міжканфесійныя, так і міжрэлігійныя адносіны, якія з'яўляюцца нашым нацыянальным скарбам і добрым прыкладам для ўсяго свету. Няўзброеным вокам бачна, што Каталіцкі Касцёл, як і Праваслаўная Царква ды іншыя веравызнанні ў Беларусі, робіць усё магчымае, каб развіваць адносіны паміж сабой і грамадствам.

Паводле Вашых слоў, "чалавек – дастаткова недасканалая істота, яму ў галаву можна ўкласці ўсё, што заўгодна". Так, сапраўды, чалавечая прырода здэфармаваная першародным грахом, але з Божай дапамогай ён можа супрацьстаяць спакусам і выклікам часу і калі будзе прыбягаць да яе, то нікому не ўдасца ўкласці ў яго галаву "ўсё, што заўгодна".

Не хацелася б, каб Вашы словы – лаўрэата Нобелеўскай прэміі – былі ўспрыняты як заклік да міжканфесійнай канфрантацыі. Наадварот, яны павінны ўносіць мір і кансалідацыю ў наша грамадства. Спадзяюся, што ў Вашых словах не было дрэннага намеру на адрас католікаў нашай Бацькаўшчыны. Аднак варта памятаць, што зраніць і забіць могуць не толькі танкі і зброя, але і словы. Будучы асобамі публічнымі, неабходна памятаць пра адказнасць за свае словы.Выказваю надзею, што, нягледзячы на Вашу нецаркоўнасць *(пар. m.nn.by/articles/192161/)*, Вы з павагай будзеце ставіцца да натуральнага права чалавека на рэлігійную свабоду, якое яму таксама гарантуе Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь. Ад усяго сэрца жадаю Вам, каб Вашы высілкі як лаўрэата Нобелеўскай прэміі спрыялі гарманічнаму і мірнаму развіццю нашага грамадства.

**Мінск- Беласток, 9 чэрвеня 2017 г.**

***Арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч, Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі, Старшыня Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі***

*Catholic.by*



# Каталіцкі епіскапат Беларусі рыхтуе пагадненне з дзяржавай

**Канферэнцыя Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі рыхтуе пагадненне, якое плануе падпісаць з дзяржавай.**

На майскім пленарным пасяджэнні "біскупы выказаліся за неабходнасць юрыдычнага ўрэгулявання адносін паміж Каталіцкім Касцёлам у Беларусі і дзяржавай для больш эфектыўнага супрацоўніцтва дзеля духоўнага дабра беларускага народа", – можна было прачытаць у афіцыйным паведамленні пасля асамблеі.

На працягу некалькіх апошніх гадоў у нашай краіне на розных узроўнях абмяркоўвалася падрыхтоўка пагаднення паміж Святым Пасадам і Рэспублікай Беларусь. Як вынікае з камунікату, Канферэнцыя Біскупаў хоча прапанаваць са свайго боку іншы дакумент, які, на яе думку, урэгулюе адносіны паміж Касцёлам і дзяржавай, напрыклад, у сферах медыцыны, адукацыі, культуры, – пракаментаваў для Беларускай рэдакцыі Ватыканскага радыё старшыня Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі. Пагадненне можа стаць унікальным. Арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч не змог узгадаць ніводнай іншай краіны, дзе такога кшталту адносіны рэгуляваліся б дамовай паміж мясцовым Касцёлам і дзяржавай. Звычайна гэта канкардат або іншае пагадненне, касцельны бок у якім прадстаўляе Святы Пасад.

"Выклікі часу такія, што трэба духоўна акармляць і вязняў, і хворых у шпіталях, школа таксама тое месца, дзе павінен прысутнічаць Касцёл. А калі няма такой дамовы, часта наша прысутнасць залежыць ад канкрэтнага чалавека: ці пусціць ён нас да вязня, ці дазволіць цэлебраваць св. Імшу ў шпіталі... І гэта трэба замацаваць правам. Таму мы распрацоўваем такое пагадненне", – патлумачыў іерарх.

Прыклад падобнага дакумента ў Беларусі ўжо ёсць: ён быў падпісаны 15 гадоў таму паміж дзяржавай і Праваслаўнай Царквой і стаў базай для больш вузкіх дамоў, з канкрэтнымі міністэрствамі і ведамствамі.

Гэтую ж стратэгію ўзяў пад увагу і Каталіцкі Касцёл у Беларусі. Калі ініцыятыва будзе рэалізаваная, пагадненне паміж Касцёлам у Беларусі і дзяржавай стане новым штуршком і ў адносінах, і ў працы, лічыць арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч. "Гэта не азначае, што не будуць далей весціся працы па падрыхтоўцы пагаднення паміж Святым Пасадам і Беларуссю, двума суб'ектамі міжнароднага права. І калі такое пагадненне будзе падпісана, той дакумент, які мы рыхтуем зараз, страціць сілу, бо неабходнасць у ім адпадзе", – падзяліўся іерарх юрыдычнымі дэталямі.

Менавіта зацягнуты працэс падрыхтоўкі ватыканска-беларускага пагаднення і падштурхнуў да распрацоўкі дамовы паміж мясцовым Касцёлам і дзяржавай. Ідэя таксама ўжо была агучана ў апараце Упаўнаважанага па справах рэлігій, прызнаўся арцыбіскуп Кандрусевіч. "Мы шмат разоў чулі: чаму ў вас няма такой дамовы? І я асабіста размаўляў з Упаўнаважаным па справах рэлігій і нацыянальнасцяў, яны адкрытыя на гэта. Бо гэта ўжо працуе ў Праваслаўнай Царкве. Гэта базавае пагадненне, некалькі старонак. Некаторыя моманты былі ўзяты з існага дакумента, бо калі глядзець і на іншыя пагадненні Беларускай Праваслаўнай Царквы з установамі, – гэта вельмі вялікая праца. А у нас пакуль – гэта база, прынцыпы", – сказаў іерарх.

На апошнім пасяджэнні Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі ў дакумент былі ўнесены некаторыя папраўкі, каб у найбліжэйшы час яго прадставіць на ўзроўні Святога Пасаду, дзе і вырашыцца далейшы лёс пагаднення.

*Ватыканскае радыё*

# Мінск рыхтуецца да буйнога сходу іерархаў Еўропы

**Пленарнае пасяджэнне Рады Біскупскіх Канферэнцый Еўропы, якое пройдзе ў Беларусі напрыканцы верасня, будзе ўключана ў афіцыйную праграму святкавання 950-годдзя Мінска.**

Арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч, Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі, лічыць, што гэта надае яшчэ большую значнасць падзеі, якая збярэ ў сталіцы амаль пяцьдзясят кіраўнікоў епіскапатаў краін Старога Свету, а таксама абумоўлівае месца адкрыцця. "Пасяджэнне пройдзе з 28 верасня па 1 кастрычніка, а адкрыццё адбудзецца ў мінскай ратушы. Касцёл таксама жыве тым, чым жывуць мясцовыя жыхары, чым жыве горад. А гэта вялікая і значная дата – 950 гадоў, і мы такім чынам таксама далучаемся да святкавання", – падкрэсліў беларускі іерарх у каментары для Беларускай рэдакцыі Ватыканскага радыё.

Сярод замежных іерархаў, якія прыедуць у юбілейны Мінск, будзе, па меншай меры, каля дзесяці кардыналаў. Статус форуму відавочны, і традыцыйна ён не абмяжоўваецца непасрэдна пасяджэннем. Чакаюцца і штодзённыя літургіі з удзелам гасцей у храмах горада, і сустрэчы з прадстаўнікамі ўлады, Праваслаўнай Царквы, патлумачыў арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч. "Я не раз быў на такіх пасяджэннях, і заўсёды на адкрыцці прысутнічаюць прадстаўнік ураду і мэр горада. Мы таксама запросім Мітрапаліта Мінскага і Заслаўскага Паўла, Патрыяршага Экзарха ўсёя Беларусі, каб ён выступіў з дакладам. А таксама плануецца візіт у праваслаўны храм", – паведаміў гаспадар форуму.

Пленарнае пасяджэнне Рады Біскупскіх Канферэнцый Еўропы праходзіць раз на год і заўсёды ў розных краінах. Мінск абраны сталіцай форуму ўпершыню. Горад і Каталіцкі Касцёл у Беларусі рыхтуюцца годна сустрэць маштабную падзею. "Не проста так Беларусь была выбрана: гэта знак пашаны да краіны, да Касцёла, да міжканфесійных і міжрэлігійных адносін у нашай дзяржаве. Нам трэба ганарыцца, што Мінск прыме такі форум", — лічыць арцыбіскуп Мінска-Магілёўскі.

На гэты раз на форуме ў Мінску будзе разгледжана сітуацыя ў Каталіцкім Касцёле Беларусі, адносіны католікаў з іншымі канфесіямі, а яго галоўнай тэмай стане моладзь, што зразумела напярэдадні Сінода Біскупаў, які пройдзе праз год у Ватыкане. Знаёмства, дыялог, абмеркаванне актуальных праблем – карысць ад такіх сустрэч нельга пераацаніць.

Сустрэча Рады Біскупскіх Канферэнцый Еўропы натхняе да пытання арганізацыі падобнага кшталту рэгіянальнай асамблеі біскупаў усходнееўрапейскага рэгіёна, у межах якой іерархі атрымалі б магчымасць абмяркоўваць блізкія для сваіх Касцёлаў пытанні, выказаў думку старшыня Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі. "Гэта актуальнае пытанне. У свой час было некалькі сустрэч у фармаце Беларусь, Расія, Казахстан, Украіна. 25 гадоў таму існавалі іншыя праблемы, напрыклад, не было літургічных, тэалагічных кніг. Таксама ўзнікла пытанне адносна выкарыстання кожнай з краін сваёй мовы. І кожны глядзеў са свайго пункту гледжання. А цяпер – іншая сітуацыя, магчыма, сёння трэба глядзець на больш глабальныя тэмы. Таму трэба некалі падымаць гэтыя праблемы", – адзначыў іерарх.

Тры гады таму ў Беларусі прайшоў гістарычны праваслаўна-каталіцкі форум, які таксама ў адным месцы сабраў дзясяткі іерархаў абедзвюх Цэркваў. У Беларусі спадзяюцца, што і будучая падзея ўвойдзе ў гісторыю.

*Ватыканскае радыё*

# Біскуп Алег Буткевіч асвяціў касцёл Святога Антонія ў Віцебску

**У свой час больш за дзесяць гадоў ён тут служыў у якасці пробашча парафіі. Акт асвячэння святыні адбыўся ў нядзелю, 11 чэрвеня.**

■ **Зміцер Лупач**, *тэкст і фота;* **Ігар Красоўскі**, *фота*

Урачыстасць распачалася з канцэрта класічнай музыкі ў выкананні скрыпічнага трыа ў складзе Аляксандры Савіных, Юліі Сабалеўскай і Марыі Кашкур. Па рэакцыі слухачоў было бачна, што класічная музыка людзям падабаецца, і яны гатовыя яе слухаць.

Пасля канцэрта распачалася святая Імша, якую ўзначаліў біскуп Віцебскай дыяцэзіі Алег Буткевіч. Напачатку ён прывітаў усіх удзельнікаў гэтай урачыстасці: вернікаў, святароў, сясцёр законных, гасцей з іншых парафій, усіх тых, хто дапамагаў будаваць святыню як фізічна, так і духоўна. Асаблівая падзяка была скіраваная да пробашча парафіі ксяндза Вячаслава Барка, які шмат зрабіў і робіць для гэтай парафіі. Іерарх падзякаваў таксама айцу Станіславу Памыкалу, вікарыю парафіі, які служыць тут адносна нядаўна, але шмат зрабіў для духоўнага ўмацавання супольнасці вернікаў.

У сваю чаргу пробашч парафіі ксёндз Вячаслаў Барок таксама прывітаў усіх вернікаў і звярнуўся да біскупа з просьбай асвяціць храм. "З гэтага моманту касцёл становіцца домам Божым, – адзначыў святар, – і калі хто паспрабуе ўзняць на яго руку, то будзе мець справу з самім Богам".

Пасля прывітальных словаў біскуп прачытаў малітву на асвячэнне вады. Гэтай вадой былі асвечаныя вернікі, сцены святыні, алтар і стацыі Крыжовага шляху.

Сваё слова да вернікаў ардынарый пачаў з цытаты Евангелля ад Яна: "Бо так палюбіў Бог свет, што аддаў Сына Свайго Адзінароднага, каб кожны, хто верыць у Яго, не загінуў, але меў жыццё вечнае".

Сама таямніца Бога, адзінага ў Тройцы, – адзначыў біскуп, – ужо дае нам вялікую ежу для нашага разважання. І колькі б мы ні задумваліся над гэтай таямніцай, мы наўрад ці да канца зможам спасцігнуць Божую сутнасць. Для людзей нашага грамадства галоўным зараз з'яўляецца пытанне: ці наогул Бог існуе? Нам, хто выйшаў з перыяду атэізму і пераследу Касцёла, на працягу сямідзесяці гадоў тлумачылі, што Бога няма, што гэты свет узнік невядома як, сам па сабе. І ўсё ж, шукаючы праўду ў такім пытанні, мы прыходзім да высновы, што ў пачатку ўсяго павінен быць нехта вялікі, хтосьці геніяльны. І для нас як хрысціянаў гэтай сутнасцю ёсць Бог, Які адзіны ў трох Асобах: Айца, Сына і Духа Святога.

Для нас часта незразумела, як такі вялікі, Усемагутны Бог прыняў слабае чалавечае цела. Бо Бог так палюбіў гэты свет, што паслаў Свайго Сына, каб паказаць, якую вялікую любоў Ён мае да чалавека, бо няма большай любові, як тая, калі хтосьці аддае сваё жыццё за сяброў сваіх.

Бога ніхто ніколі не бачыў. Больш за тое, Біблія кажа, што Ён не патрабуе месца ў гэтым свеце, бо няма такога месца, якое б магло змясціць Бога. Але гэтага месца патрабуе чалавек.

Са старажытных часоў чалавек будаваў храмы, каб уславіць Бога. Такім храмам была і святыня ў Ерусаліме, якая не захавалася да нашых дзён. І таму сёння мы таксама будуем, ствараем тут, на зямлі, тое месца, дзе мы можам сустрэцца з нашым Нябесным Айцом. І Бог гэта разумее, таму і асвячае і благаслаўляе гэтае месца.



У савецкі час культавыя пабудовы знішчаліся, бо перашкаджалі існаванню ідэалогіі, у якой не было месца для Бога. Таму і напаткаў віцебскія святыні такі трагічны лёс, калі яны былі цалкам зруйнаваныя. У нейкім сэнсе пашанцавала толькі касцёлу Святой Барбары: святыня не была цалкам знішчаная, бо знаходзілася на той час на ўскраіне горада. Там, дзе храмы захаваліся, іх перараблялі на свецкі ўжытак, прычым рабілася гэта брутальна, каб зняважыць гэтыя будынкі. Але, як казаў Езус, Бог не дазваляе доўга з сябе насміхацца. Таму мы сёння бачым адваротны працэс, калі будынкі свецкія перарабляюцца ў храмы. Прыкладам можа служыць і сённяшні наш касцёл. Гэта ўсё і можа быць знакам прысутнасці Бога сярод нас.

Біскуп звярнуў увагу на роспіс касцёла святога Антонія. Будынак мае шэрыя сцены і столь, светлы алтар. Гэта знак той цемры, з якой выходзіць чалавек, у якой, шукаючы праўду, знаходзіць Бога. Вельмі часта такая цемра бывае ў нашым жыцці і мы шукаем з яе выйсця. І гэты храм нам падказвае, дзе яго шукаць – ва ўваскрослым Езусе Хрысце.

Трэба толькі дазволіць промню Божага святла ўвайсці ў нашыя сэрцы, а далей яно зробіць сваю справу. З падобнай нагоды іерарх узгадаў словы святога Папы Яна Паўла II: "Хай сыдзе Дух Твой і адновіць аблічча зямлі! Гэтай зямлі". І яго словы сталі прарочымі.

"Я па-рознаму ўяўляў гэты момант, – прызнаўся біскуп, – і да канца не верыў, што ён можа стацца. Я памятаю той жах, з якім я першы раз увайшоў у гэты будынак. Праязджаючы міма, я дзякаваў пану Богу, што не служу ў гэтай парафіі, нават адварочваўся ад яго. Але Бог мае пачуццё гумару, калі накіраваў мяне ў гэтую парафію. І мае не толькі пачуццё гумару, але і час, каб змяніць чалавека і тое месца вокал яго". Таму сёння, асвячаючы гэтае месца, мы будзем прасіць Бога аб стварэнні ў першую чаргу жывога касцёла, і хай за гэта Бог будзе праслаўлены.

Пасля вызнання веры вернікі разам са святарамі памаліліся Літаніяй да усіх святых. Затым біскуп прачытаў малітву на асвячэнне алтара і ўсяго храма. Алтар і знакі на сценах былі намашчаныя святым алеем. Потым алтар заслалі белым абрусам, і на ім з'явіліся запаленыя свечкі як сімвал святла Хрыста.

Пасля абраду асвячэння адбылася працэсія з дарамі, дзе біскупу паднеслі рэліквіі айца Піа, ваду і віно, а таксама хлеб.

На заканчэнне Імшы ардынарый яшчэ раз падзякаваў усім тым, хто дапамагаў у будаўніцтве храма. Асобная падзяку ён выказаў мастаку Уладзіміру Кандрусевічу, дзякуючы якому касцёл атрымаў сваё ўнутранае і знешняе афармленне. Вернікі ў сваю чаргу падзякавалі біскупу за абрад асвячэння храма.

Пасля біскупскага благаслаўлення ўрачыстасці не скончыліся: вернікаў чакала яшчэ канцэртная праграма, падчас якой гледачоў парадаваў сваім выступам гурт "Рыбы". З такой нагоды біскуп нават пажартаваў, што ўсюды рыбы маўчаць, а тут, каля касцёла ў Віцебску, нават спяваюць.

Таксама ў час канцэртнай праграмы быў асвечаны хлеб святога Антонія, які пякуць вернікі, адбыўся адмысловы конкурс на найлепшы каравай, а таксама перад гледачамі выступілі дзеці парафіі.

Падводзячы вынікі гэтага дня, біскуп падзякаваў Богу за ўсе ласкі, у тым ліку і за надвор'е, і выказаў надзею, што з Божай дапамогай касцёл Святога Антонія будзе адбудаваны таксама і ў цэнтры Віцебска, на яго гістарычным месцы.



**Так было напачатку...**



**...і так ёсць зараз**



**Самыя актыўныя ўдзельнікі свята**

# Працэсія Божага Цела адбылася ў Віцебску




**Вернікі прайшлі па вуліцах горада ад катэдральнага касцёла Езуса Міласэрнага да касцёла Святога Духа.**

■ **Зміцер Лупач**, *тэкст;* **Марына Сінкевіч,** *фота*

Падзея адбылася ў суботу, 10 чэрвеня, і была прымеркаваная да ўрачыстасці Божага Цела, якую Каталіцкі Касцёл сёлета адзначае ў чацвер, 15 чэрвеня. Гэта свята лічыцца адным з самых значных у Касцёле, бо яно прысвечанае галоўнаму сакраманту – Эўхарыстыі. Падчас Эўхарыстыі адбываецца пераўтварэнне хлеба і віна ў Цела і Кроў Езуса Хрыста.

Свята пачалося са святой Імшы ў катэдры Езуса Міласэрнага. Набажэнства ўзначаліў біскуп Віцебскай дыяцэзіі Алег Буткевіч. Іерарх распачаў Імшу словамі псальма: "Бог корміць нас тлушчам пшаніцы і насычае мёдам са скалы".

У Імшы прынялі ўдзел святары, сёстры законныя, вернікі як з Віцебска, так і з іншых парафій дыяцэзіі. Было шмат дзяцей, якія сёлета прынялі Першую Камунію.

Біскуп прывітаў усіх вернікаў, асабліва падзякаваў тым, хто прыехаў сюды здалёк. Свой зварот да прысутных іерарх распачаў з разважання над словамі, якімі заканчваецца кожная Імша: "Ідзіце ў супакоі Хрыста". "Гэтыя словы, – адзначыў біскуп, – заклікаюць і нас сёння прайсці па вуліцах Віцебска. І Езус Хрыстус таксама хоча ісці разам з намі па гэтых вуліцах і святкаваць разам з намі".

Традыцыя адзначаць гэтае свята на вуліцах гарадоў і вёсак пайшла яшчэ з Сярэднявечча, першая працэсія адбылася ў Францыі ў 1264 годзе. Хрыстос жадае быць разам з намі ў працы, вучобе, адпачынку, наогул, ва ўсім нашым жыцці. Свет і зараз патрабуе навяртання, каб не было тых трагедый, што перажыло чалавецтва ў XX стагоддзі.

Біскуп нагадаў, што нельга бяздумна прымаць Цела Хрыста, застаючыся абыякавым, успрымаючы гэта як проста традыцыю. Ён прывёў словы Езуса: "Хто спажывае Маё Цела, будзе жыць вечна". Наш першы і галоўны абавязак – будаваць Валадарства Божае тут, на зямлі. І гэта працэсія – толькі першы штуршок, каб нагадаць пра такі наш абавязак. Дык няхай гэта працэсія стане знакам нашага выратавання і любові, сказаў ардынарый.

Перад працэсіяй была асвечаная новая харугва парафіі Святога Уладзіслава ў Віцебску. Гэта самая маладая парафія, яна знаходзіцца ў Білеве, новым мікрараёне абласнога цэнтра. Парафія яшчэ не мае свайго храма, моляцца вернікі ў часовым будынку, і таму харугва стала адным з першых крокаў у станаўленні парафіі. Таму і неслі яе ў працэсіі першай, адразу за крыжам.

Як прынята на гэту ўрачыстасць, вернікі ўсталявалі чатыры алтары, каля якіх рабіліся прыпынкі. На гэтых стацыях святары спявалі ўрыўкі з Евангелля, потым біскуп удзяляў благаслаўленне вернікам і ўсяму гораду.

Першы алтар зрабілі каля катэдры, два наступныя былі мабільныя. Алтар размяшчаўся на плячах вернікаў. Апошні, чацвёрты, алтар быў устаноўлены перад касцёлам Святога Духа.

Як і ў мінулыя гады, разам з католікамі рымскага абраду ў працэсіі ўдзельнічалі і грэка-католікі. Сваёй прысутнасцю яны паказалі, што ўсе хрысціяне павінны быць разам, нягледзячы на тое, што мы адрозніваемся выкананнем некаторых абрадаў.

Па заканчэнні працэсіі біскуп Алег Буткевіч падзякаваў усім, хто прыняў удзел у гэтым мерапрыемстве, а таксама тым, хто яго рыхтаваў. Адмысловая падзяка была выказаная мясцовым уладам, якія далі дазвол на мерапрыемства і забяспечвалі на ім парадак.

Іерарх запрасіў таксама ўсіх вернікаў на ўрачыстасць Маці Божай Валадаркі азёраў, якая адбудзецца ў Браславе 18-19 жніўня.





## Калі заканчваецца дзяцінства

Сёлета ў Беларусі амаль 58 тысяч выпускнікоў сярэдніх школ. Сярод іх і мой малодшы сын. Няўжо так хутка прамільгнула сямнаццаць гадоў? Цяжка пагадзіцца, што дзіця вырасла, стала амаль дарослым. Хоць юнакі і дзяўчаты лічаць сябе ўжо дарослымі і самастойнымі, але бацькам яшчэ трэба да гэтага прызвычаіцца. Так хочацца засцерагчы іх ад памылак, захаваць ад страхаў, надзяліць сваёй жыццёвай мудрасцю. А яны выбіраюць свой шлях, хочуць вучыцца на ўласных памылках, набіваць свае гузакі, самастойна пераадольваць цяжкасці. Колькі трывог, перажыванняў, спадзяванняў! І нам, бацькам, трэба з гэтым пагадзіцца.

Варта памятаць, што дзіця – Божы дар. Малое трэба прыняць з любоўю, выпеставаць, выгадаваць, выхаваць пахрысціянску і адпусціць у самастойнае жыццё. Адпусціць, даверыўшы яго Божаму Провіду і апецы Маці Божай. Атуляць пастаяннай малітвай і быць гатовымі падтрымаць, даць параду, зразумець.

*Алена Пажога*

## Сыну

Як хутка вырас ты, сынок!
Перад табою сто дарог,
А трэба з іх адну знайсці,
Каторай крочыць па жыцці.

Прашу цябе, запомні, сын,
Што ты на свеце не адзін,
Што на любой з гэтых дарог
З табою разам будзе Бог.

Давер Хрысту жыццёвы шлях,
Забудзься пра ўсякі страх,
Наперад смела ты ідзі,
На крыж з Хрыстом заўжды глядзі.

Пра дом бацькоўскі не забудзь,
Адказным, верным, добрым будзь!
У добры шлях дабраслаўляю!
Малітвай шчырай атуляю!



# Біскуп Алег Буткевіч наведаў з пастырскай візітацыяй парафію Святога Андрэя Апостала ў Лынтупах

**Візітацыя адбылася ў нядзелю, 4 чэрвеня. Па традыцыі, іерарха сустрэлі з хлебным караваем каля галоўнай брамы касцёла. Паколькі візітацыя біскупа адбывалася на ўрачыстасць Спаслання Духа Святога, або зялёныя святы, то кожны вернік трымаў у сваёй руцэ галінку бярозы з маладымі лісточкамі.**

**Зміцер Лупач**, *тэкст;* **Марына Сінкевіч**, *фота*



Па словах пробашча парафіі ксяндза Паўла Кнурэка, традыцыя асвячаць на Пяцідзясятніцу галінкі бярозы адрадзілася ў Лынтупах не так даўно, але ўжо стала тут прыжылася. Як распавядаюць самі вернікі, асвячэнне зялёных галінак практыкавалася ў парафіі заўсёды, перарвалася гэта толькі ў савецкія часы, калі ў Лынтупах не было пастаяннага святара. Зараз жа гэты звычай зноў адрадзіўся.

Пасля ўрачыстага ўваходу ў храм пробашч парафіі ксёндз Павел Кнурэк коратка распавёў высокаму госцю пра гісторыю Лынтупскай парафіі, якая налічвае ўжо больш за 550 гадоў.

Сучасны будынак храма ўзведзены ў 1908-1914 гадах. Сам касцёл быў пабудаваны даволі хутка, але шмат часу занялі розныя ўзгадненні з тагачасным царскім урадам. Вернікі хацелі надаць касцёлу тытул мучаніка Андрэя Баболі. Але ў сталіцы Санкт-Пецярбургу лічылі гэта немэтазгодным. Таму святыню назвалі ў гонар Андрэя Апостала, хаця ў шмат якіх даведніках гаворыцца, што гэта касцёл Андрэя Баболі.

Да 1939 года лынтупская парафія налічвала больш за шэсць тысяч вернікаў. Касцёл не зачыняўся нават у часы ваяўнічага атэізму, нягледзячы на тое, што парафія тады не мела свайго святара.

Зараз храм у Лынтупах адрамантаваны і радуе вернікаў і гасцей сваім знешнім і ўнутраным выглядам. Вялікі ўклад у гэту справу ўнеслі вернікі як сваёй працай, так і грашовымі сродкамі.

Парафіяльнае жыццё ў Лынтупах можа быць добрым прыкладам для ўсёй дыяцэзіі. Тут дзейнічае шмат малітоўных супольнасцяў: ружанцовыя колы, супольнасці маргарытак, духоўнага ўсынаўлення, ёсць парафіяльны "Карытас".

Пробашч падзякаваў усім ахвярадаўцам за іх уклад у развіццё парафіі і заклікаў усіх памаліцца за біскупа Алега.

Іерарх у сваім прывітальным слове падзякаваў вернікам за іх веру і ахвярнасць, распавёў пра значэнне свята Спаслання Святога Духа. Ён адзначыў, што гэта добры знак для тых вернікаў, што прымуць сёння сакрамант канфірмацыі: атрымаць дары Духа Святога ў той дзень, калі гэты Дух быў спасланы на апосталаў.

Свой зварот да прысутных ардынарый пачаў з выказвання Езуса Хрыста: "Калі хто не народзіцца з вады і духа, то не ўвойдзе ў Царства Нябеснае". "Мы праз хрост становімся дзецьмі Божымі, – адзначыў біскуп Алег, – з гэтага моманту мы можам называць Бога сваім Айцом". І вельмі важна, каб вера была ў нас не мёртвай, а каб прыносіла нам свой плён. Высокі госць патлумачыў, чаму пры асвячэнні выкарыстоўваецца менавіта вада. З гэтай нагоды ён узгадаў, што для таго, каб зерне, кінутае ў сухую зямлю, прарасло, патрэбная вільгаць. Таму як зараз нашай зямлі патрэбны дождж, так і нам усім неабходны дождж духоўны, без якога наша вера можа засохнуць.

Вось таму і дзеянне Духа Святога адбываецца ў першую чаргу праз ваду. Але гэта дзеянне патрабуе ад чалавека адвагі ў вызнаванні сваёй веры. Езуса Хрыста ўкрыжавалі не якія-небудзь атэісты, а людзі, што верылі ў Бога. Таму трэба заўсёды пытацца ў сябе, наколькі трывалая мая вера. У якасці прыкладу ардынарый прывёў два ўрыўкі са Старога Запавету.

Адзін з іх тычыцца прарока Ёва, калі Бог забірае ад яго ўсё тое, што ён нажыў цягам свайго жыцця. Але Ёў не выракся Бога, ён сказаў: "Голым я выйшаў з чрэва маці маёй, голым вярнуся да маці сваёй зямлі. Госпад даў, Госпад і ўзяў. Хай будзе Імя Гасподняе дабраслаўёна!"

Канфірмацыю называюць яшчэ сакрамантам хрысціянскай сталасці. Гэты сакрамант умацоўвае нашу веру. Але ўмацаваць можна толькі тое, што мы ўжо маем у сваёй душы, у сваім сэрцы. Таму і трэба нам прасіць аб дарах Святога Духа. Адным з такіх дароў ёсць мудрасць. Яна дае нам магчымасць разумець іншага чалавека, умець яму прабачыць.

Звяртаючыся да моладзі, іерарх параўнаў дзеянне Духа Святога з антывіруснай праграмай, якая ўсталёўваецца на камп'ютары, каб абараніць ад шкодных праграм.

Яшчэ адным з дароў Духа Святога ёсць адвага, якая вельмі патрэбная ў сучасным свеце, каб вызнаваць нашу веру. Нас павінна ў першую чаргу непакоіць не тое, што скажуць людзі, а тое, што скажа Бог.

Напрыканцы біскуп заклікаў шукаць у сваіх сэрцах паклікання, якое патрэбнае не толькі для святарскага або манаскага жыцця, але і для жыцця сямейнага. Бо моцныя сем'і з'яўляюцца падмуркам моцнага Касцёла і моцнай краіны.

Потым біскуп удзяліў сакрамант канфірмацыі дваццаці чатыром вернікам.

Перад блаславеннем на заканчэнне Імшы адбылася яшчэ адна адметная падзея – сем мужчын парафіі далі ўрачыстае абяцанне маліцца за біскупа цягам усяго свайго жыцця. Звычайна ў такія малітоўныя супольнасці ўваходзяць жанчыны, а ў Лынтупах арганізавалася мужчынская "Маргарытка", што можа быць добрым прыкладам для іншых парафій.

Пасля заканчэння Імшы візітацыя не завяршылася. Біскупа чакалі яшчэ дзеці ў араторыі. Пра араторый трэба сказаць асобна, бо падобнага месца ў нашай дыяцэзіі хіба няма больш нідзе. Тут у вольны час збіраюцца дзеці амаль з усёй парафіі, дзе з імі займаюцца сёстры або валанцёры парафіяльнага "Карытас". Тут можна пагуляць у більярд, пазаймацца на трэнажорах, скарыстацца інтэрнэтам. Дзяцей вучаць спяваць, танцаваць, гатаваць розныя стравы, шыць, вязаць. Тут можна папіць кавы ці гарбаты, а заадно паразмаўляць з сябрамі на розныя тэмы. Дзеці парадавалі біскупа сваімі танцамі і спевамі, якія яны падрыхтавалі разам з сястрой Люцынай.

Пасля араторыя біскуп наведаў прытулак для састарэлых людзей, дзе яго вельмі чакалі. Іерарх паразмаўляў з насельнікамі прытулка, удзяліў ім біскупскае блаславенне, а таксама атрымаў падарунак ад супрацоўнікаў гэтай установы.

Ужо пад самы вечар біскуп сустрэўся з актывам парафіі і абмеркаваў надзённыя патрэбы рэлігійнага жыцця ў Лынтупах. Па словах іерарха, ён застаўся вельмі задаволены вынікамі свайго візіту.





# Святы Губерт пасяліўся ў Камаях



**У нядзелю, 28 мая, у камайскім касцёле Святога Яна Хрысціцеля адбылося шмат значных падзей. Перш за ўсё ў гэты дзень мясцовую парафію наведаў з візітацыяй біскуп Віцебскай дыяцэзіі Алег Буткевіч.**

**Генавефа Дубіловіч**, *тэкст;* **Васіль Крук**, *фота*

Былі асвечаны капліца, фігура св. Губерта і стадыён ля Камайскай школы.

Пасля ўрачыстай сустрэчы біскупа Алега ля ўваходу ў касцёл і прывітання адбылася Святая Імша, якую цэлебраваў сам віцебскі ардынарый. Пасля прысутныя выйшлі на двор для асвячэння каплічкі і фігуры св. Губерта.

Хто ж такі св. Губерт? Гэта каталіцкі біскуп, святы, які нарадзіўся ў 655 годзе ў Брусельска-Бельгійскай епархіі ў сям'і герцага. Спачатку ён вёў свецкае, вясёлае, бесклапотнае жыццё, любіў паляванне.

Аднойчы, будучы на паляванні ў вялікіх лясах Ардэнскіх гор, ён заблудзіўся і ледзь не загінуў. Раптам пачуў голас: "Губерт, калі не навернешся, цябе чакае пекла. Ідзі да біскупа Ламберта, ён скажа табе, што рабіць". Губерт убачыў перад сабой аленя з залатым распяццем паміж рагамі, які то адбягаўся, то чакаў яго. Будучы святы паехаў за ім і такім чынам цудоўна выратаваўся. Было гэта ў вялікую пятніцу 695 года.

З таго часу яго жыццё карэнным чынам змянілася. Ён стаў вучнем біскупа Ламберта, а затым і яго пераемнікам. Будаваў цэрквы і асвячаў іх, шмат зрабіў для хрысціянізацыі горных раёнаў Ардэна, клапаціўся пра духоўнае навяртанне сваёй паствы, за што яго называлі "Апосталам Ардэна".

Смерць Губерту прадказаў анёл. Памёр Губерт 30 мая 727 года, у хуткім часе быў кананізаваны. Сёлета своеасаблівы юбілей: 1290 гадоў са дня яго смерці.

Уадной з цэркваў знаходзіцца паляўнічы рог, які належыў св. Губерту. У Германіі, пад Дрэздэнам, ёсць паляўнічы замак Губертусбург. Выява аленя з крыжам паміж рагамі ўпрыгожвае герб беларускага горада Гродна. Св. Губерт лічыцца апекуном паляўнічых і леснікоў, рыбаловаў, ліцейшчыкаў, оптыкаў, матэматыкаў, спартсменаў. Яму моляцца пра ацаленне эпілептыкі, лунатыкі, пра абарону ад укусаў шалёных сабак, змей і гадзюк, пра лёгкую смерць.

Вось такога цудоўнага апекуна набылі мы сабе ў вобразе св. Губерта пры дапамозе кс. Яцэка Хутмана. І гэта невыпадкова. Побач з касцёлам знаходзіцца дом, пабудаваны ў 1929 годзе, які калісьці належыў касцёлу. Але са зменай улады змянілася і яго прызначэнне. Ён быў клубам, спартыўнай залай, камбінатам бытавога абслугоўвання.

У 2000-ым годзе ў ім размясцілася адміністрацыя Камайскага лясніцтва. Суседства аказалася плённым і ўзаемавыгадным. Гэтыя добрыя людзі не раз дапамагалі касцёлу ў выкананні розных цяжкіх работ. Вальшчыкі лесу спрыялі ў добраўпарадкаванні могілак на тэрыторыі парафіі, нарыхтоўвалі і ўстанаўлівалі рыштаванні для рамонту касцёла, дастаўлялі навагоднія ёлкі, прывозілі саджанцы туі ў парк перад святыняй. Па ініцыятыве кс. Яцэка ў парку насупраць лясніцтва створаны міні-дэндрапарк, які кожны год папаўняецца новымі экспанатамі. І, канешне ж, з іх удзелам выраблена і ўстаноўлена каплічка для фігуры св. Губерта, якая заняла належнае месца паміж касцёлам і лясніцтвам і была асвечана біскупам Алегам. Св. Губерт можа стаць прыкладам для ўсіх нас у навяртанні і служэнні Богу, касцёлу і людзям.

Пазней усе прысутныя накіраваліся на школьны стадыён, які пабудавалі акурат да гэтай даты. Сродкі на добраўпарадкаванне тэрыторыі пад яго выдзеліў прадпрымальнік з в. Лапуны Андрэй Лашук. Слупы вырабляў майстар-"залатыя рукі" каваль А. Р. Трафанчук. Дапамагалі ўзводзіць стадыён таксама і работнікі ААТ "Камайскі-агра", вучні старэйшых класаў мясцовай школы, шмат працаваў і сам кс. Яцэк.

І вось усё гатова. Разразаюць стужку і адчыняюць вароты дырэктар школы Г.А. Рамбальскі і вучань-старшакласнік Канстанцін Дуброўскі.

Пакладзены мяч, і першы ўдар даручаецца зрабіць біскупу Алегу. Удар атрымаўся ўдалым і трапным.

Затым выступіў намеснік старшыні райвыканкама Ю.М. Кісялёў. Ён выказаў словы падзякі кс. Яцэку, арганізатарам гэтай добрай справы і ўсім удзельнікам, уручыў грашовыя прэміі і падарункі.

Ва ўсіх быў добры настрой, і кс. Яцэк запрасіў гасцей на абед, прыгатаваны ўмелымі рукамі мясцовых гаспадынь.

У гэты дзень Маці Божая і маленькі Езус з любоўю і пяшчотай глядзелі на ўсіх парафіян, святароў, асабліва на кс. Яцэка, які так шмат зрабіў для камайскага касцёла і Камаяў, для ўсёй парафіі. І падзеі гэтыя адбыліся напярэдадні яго юбілейнага дня нараджэння. Біскуп Алег павіншаваў ксяндза Яцэка з важнай датай, падзякаваў за працу, паблаславіў на далейшае служэнне ў касцёле.

Мы таксама далучаем свае найлепшыя пажаданні кс. Яцэку! Жадаем яму Божай ласкі і апекі ва ўсіх яго справах, каб заўсёды і на ўсё хапала сілы і здароўя, каб ён працаваў яшчэ доўга-доўга ў нашым касцёле і парафіі, каб збыліся ўсе яго самыя смелыя планы і задумы, а праца была годна ацэненая Богам і людзьмі!





# "Школа міністрантаў" у Верхнядзвінску

**Напрыканцы вясны ў школах прагучаў апошні званок і ў вучняў распачаліся летнія канікулы. А вось міністранты верхнядзвінскай парафіі Нараджэння Найсвяцейшай Панны Марыі пасля заканчэння звычайнай школы трапілі ў "Школу міністрантаў".**

**кс. Аляксандр Грыцкевіч**, *тэкст і фота*

Пры парафіі арганізавалі летнік для малодшых хлопцаў, якія толькі распачалі прыслугоўваць пры алтары. Таму катэхезы і практычныя заняткі па літургіцы былі вельмі карысным дадаткам да ўжо набытых ведаў і навыкаў міністрантаў-пачаткоўцаў.

Вядома, што любая навука хутка нудзіць, і каб дадаць навучальнаму працэсу духу рамантыкі і спаборніцтва, на працягу трох дзён хлопцы са сваім пробашчам кс. Аляксандрам Грыцкевічам практыкаваліся ў стральбе, лавілі рыбу, наведалі краязнаўчы музей, праводзілі спаборніцтвы па настольным тэнісе і наводзілі парадак на прыкасцельнай тэрыторыі. Акрамя навукі і забаўляльных мерапрыемстваў, міністранты кожны дзень удзельнічалі ў святой Імшы і набажэнствах.

У апошні дзень "Школы міністрантаў" усе вучні паспяхова здалі выніковы залік і без другагоднікаў былі пераведзены ў наступны клас. Акрамя таго, кожны ўдзельнік добра адпачыў і карысна правёў час.



# Мой касцёл,
## або Займіце мне месца ў першым радзе!
### Касцёлу святога Аляксея ў Івянцы прысвячаецца

**Амаль у кожнага верніка-каталіка ёсць свой касцёл – месца, дзе праходзіла яго сталенне, дзе ўсё знаёмае, добра вядомае на дотык, абгледжанае і пералічанае яшчэ ў дзяцінстве, дзе, магчыма, яго хрысцілі або куды ён прынёс сваё першае "не слухаўся бацькоў, падманваў, дрэнна рабіў урокі". У такім касцёле памятаеш, як скрыпяць дзверы, калі спазняешся на Імшу (як жа па-здрадніцку яны скрыпяць!) і ведаеш нават, хто адвернецца, каб дакорліва паглядзець назад.**

**Аксана Нядвецкая**

Ёсць такі касцёл і ў мяне. Але гэты артыкул не пра яго, дакладней, не толькі пра яго. Мае дзіцячыя ўспаміны, яскравыя моманты жыцця і нязначныя, на першы погляд, эпізоды перапляліся ў гэтым тэксце з сённяшнімі назіраннямі, рознымі дробязямі, прыкмечанымі мною ў розных касцёлах, а таксама з разважаннямі яшчэ на адну тэму (яна будзе няяўна прысутнічаць на працягу ўсяго артыкула). На якую? Пра гэта вы і самі здагадаецеся, спадзяюся. Ну што ж, пачнём?

Мой касцёл бачны з акна кватэры маіх бацькоў. Сціплы і велічны аднachасова, гэты "помнік архітэктуры неагатычнага стылю, пабудаваны з чырвонай цэглы", называюць у нас Чырвоным касцёлам. Яму крыху больш за сто гадоў, не зусім малады, але і не такі старадаўні, як многія іншыя, касцёл "у росквіце сіл", я б сказала. Знаходзіцца ён на старых каталіцкіх могілках, паблізу раней быў вакзал, і гэта першая выдатная мясціна, якая сустракае гасцей і жыхароў пасёлка па дарозе "з Мінска".

Тут яшчэ можна знайсці малітоўнікі, выдадзеныя дзесьці на пачатку 90-х гадоў XX ст., з польскімі малітвамі і спевамі, надрукаванымі "рускімі" літарамі, з надпісам "не забіраць дамоў". Калі пашанцуе, сустрэнеш у такім малітоўніку складзены ў чатыры разы пажоўклы лісток паперы з напісанай буйным разборлівым почыркам песняй, якой, напэўна, не было ў малітоўніку. А той жанчыны, якая акуратна перапісала гэты тэкст, можа, і няма ўжо. Хутчэй за ўсё, няма. А лісточак ляжыць…

Жанчыны, якія займаюць першыя лаўкі, заслугоўваюць асобнага месца ў гэтым артыкуле. Я ведаю іх у твар. Ніколі не ўдавалася мне заўважыць, як яны прыходзяць на Імшу і займаюць свае першыя месцы, і як выходзяць з касцёла. Я прыходжу – яны ўжо тут, спяваюць або моляцца на ружанцы. Я выходжу, а яны – яшчэ не. Яны не спяшаюцца нікуды. І выходзяць на Імшу, можа, на гадзіну раней, хоць і жывуць побач. Зусім побач.

Яны падобныя адна да адной, асабліва са спіны. Хусцінкі, стракатыя блузкі, купленыя спецыяльна, каб хадзіць "да касцёла". І сумачкі амаль аднолькавыя – невялікія, якраз для акуляраў, малітоўніка і старэнькага "Nokia", які застаўся ад унука. Абавязкова з флікерам, часта выразаным самастойна з кавалка святлоўяртальнай паперы і прыклееным проста на сумачку, "каб не згубіўся".

У маім касцёле я яшчэ дзесьці ззаду. Магу быць з дзецьмі. Мне можа спатрэбіцца выйсці, калі завібруе тэлефон: бубуля не зладзіла з маленькай, і тая ніяк не супакойваецца. Я не магу прыйсці на Імшу значна раней і затрымацца ў касцёле даўжэй, бо ў адной дачкі тэмпература, а другая не хоча есці таго, што ёй прыгатаваў тата. І ў мяне зусім няма флікера (ну ніяк ён не вяжацца ні з адным маім уборам!) Але гэта адступленне, вернемся да тэмы.



Падчас вучобы ва ўніверсітэце ў мяне былі заняткі ў зале рэдкай кнігі Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі. Наша выкладчыца Галіна Уладзіміраўна, калі даведалася, адкуль я родам, сказала штосьці накшталт: "Ведаем-ведаем ваш Івянец. Колькі кніг туды паперавозілі! У вас добрае месца, утульнае. І тэмпература ў касцёле для кнігасховішча прымальная".

Не, Галіна Уладзіміраўна, не так! Тэмпература ў касцёле прымальная для нас, вернікаў, для тых бабулек з першых лавак, для маёй мамы, якая так любіць нядзельную Імшу а 9.15, і для мяне з маімі гаманлівымі дзецьмі. І тэмпературы гэтай якраз дастаткова, каб падтрымліваць бесперапыннае гарэнне адной маленькай лампадкі побач з табэрнакулюмам. А для кніг даволі і крышталю, ромбакуба-актаэдрнай формы, 74 метры ў вышыню. Хоць майму касцёлу яшчэ пашчасціла: у гады "ваяўнічага" атэізму тут усё ж такі захоўваліся кнігі, а не стаялі станкі якога-небудзь завода…

Калі я рыхтавала гэты матэрыял, праглядала шмат інтэрнэт-крыніц пра касцёл святога Аляксея ў Івянцы. Усе як адна паведамілі мне пра пяцігранную апсіду, стылізаваныя контрфорсы і стрэльчатыя вокны. І ніводная з іх не расказала, як праз гэтыя "стрэльчатыя вокны" пранікае ў касцёл сонейка і падсвятляе сваімі промнямі нашы твары, пакрывае пазалотай плечы, рукі, адзенне. Ні адзін сайт не распавёў мне, як цягне холадам з вуліцы, калі стаіш ззаду і хтосьці няшчыльна зачыніў дзверы. Нідзе не прачытала я, як ачышчальна і пасвяточнаму гучаў патройны стук з таго боку канфесіянала, калі там спавядаў айцец Гжэгаж. І не магла прачытаць. Касцёл не дзеліцца сакрэтамі з выпадковымі людзьмі, з турыстамі, наведвальнікамі "за кампанію" і "пафатаграфаваць". А мой касцёл асаблівы.

Пройдзе не так шмат часу, і я знайду сваю лавачку пасярэдзіне. Яшчэ крыху – і буду амаль спераду. Цікава, якія песні будуць спяваць у Чырвоным касцёле у той час? "U drzwi Twoich stoję, Panie"? Або "Zdrowaś Maryjo, Bogarodzico"? Ці, можа, польскіх песень да таго часу зусім не застанецца?

І так выразна мне зараз уяўляецца, як гадоў праз 35–40 адна дагледжаная бабулька пачне збірацца на вячэрнюю Імшу амаль адразу пасля абеду. Хтосьці з дзяцей ці ўнукаў прапануе падвезці, але яна адмовіцца. У яе шмат часу, ёй няма куды спяшацца. І ёй ёсць пра што паразмаўляць з яе касцёлам.

***

**P. S.** Не падкажаце, дзе можна купіць прыстойны яксасны флікер?

# Газетная закрыстыя

**Памятаючы пра просьбы нашых чытачоў, мы працягваем нашу рубрыку "Газетная закрыстыя".**

Кожны з вас, дарагія сябры, можа даслаць у газету інтэнцыю для адпраўлення св. Імшы. Многія жывуць далёка ад касцёла і не маюць магчымасці своечасова запісаць інтэнцыю св. Імшы. Зрабіць гэта можна праз газету "Каталіцкі Веснік". Дастаткова толькі выразаць бланк і запоўніць яго выразным почыркам.

Можна пісаць імёны блізкіх памерлых, а таксама імёны тых, хто патрабуе ласкі здароўя ці навяртання. Адзін запоўнены бланк абазначае адну асобную інтэнцыю св. Імшы.

Затым запісаны бланк трэба даслаць на карэспандэнцкі адрас рэдакцыі:

*Газета "Каталіцкі Веснік"
вул. Савецкая, 1
211793
г. Глыбокае
Віцебскай вобл.*

Даслаць ахвяраванне на св. Імшу можна праз паслугу Белпошты. Вельмі пажадана, каб ахвяра за Імшу была не менш за 10 рублёў. Ёсць магчымасць замовіць грыгарыянскую св. Імшу, але зрабіць гэта можна, патэлефанаваўшы па тэл.: +375297365307.

Адправіць ахвяраванне можна па ніжэйнапісаным адрасе:

*Місевіч
Віктар Мар'янавіч
вул. Савецкая, 1
211793
г. Глыбокае
Віцебскай вобл.*

**Хто адпраўляе св. Імшы ў гэтых інтэнцыях?**

Гэта робяць святары ва ўсходніх раёнах Беларусі, дзе шмат небагатых парафій.

Дарагія сябры! Запрашаем Вас прыняць удзел у праекце "Газетная закрыстыя". Дашліце ахвяраванне на св. Імшу. Гэтым вы падтрымаеце святароў на ўсходзе краіны.

Будзьма адказнымі адно за аднаго. Будуйма Божае Валадарства ў нашай краіне разам! Няхай праз нашае супрацоўніцтва ў газеце "Каталіцкі Веснік" Касцёл у Беларусі мацнее і развіваецца на хвалу Божую і радасць людзям!

*Рэдакцыя "Каталіцкага Весніка"*

## Інтэнцыя св. Імшы

| | |
|---|---|
| **Хто замаўляе** (Імя, прозвішча, індэкс, адрас і тэлефон) | |
| **Інтэнцыя св. Імшы** (за каго будзе адпраўлена св. Імша) | |

# Ксёндз Яцэк Хутман: “Не шкадую,

**Ксёндз Яцэк Хутман служыць у Камаях з 1 ліпеня 2002 года. Хутка будзе 15-гадовы юбілей яго працы ў гэтай мясцовасці. За такі перыяд ён зрабіў вельмі шмат для камайскай парафіі як у духоўным плане, так і ў матэрыяльным. Вось і нядаўна з яго дапамогай быў пабудаваны школьны стадыён. Мы сустрэліся з ксяндзом Яцэкам і задалі яму некалькі пытанняў.**

**– Вы самі з Польшчы, не беларус, а шмат зрабілі для людзей, што тут жывуць. У чым прычына Вашага імкнення рабіць дабро?**

– Усё, што мы робім у касцёле, выкол яго, на могілках, мы робім не так, як у Польшчы, не так, як дзесьці ў свеце, мы робім па-свойму. Не хочам рабіць, як у іншых краінах, а хочам зрабіць яшчэ лепш. Я хацеў пераканаць людзей, што ў нас ёсць унутраная сіла, што мы самі можам зрабіць. Не трэба, каб хтосьці нас тут вучыў. Вось гэта я хацеў закласці людзям у душу. Трэба рабіць самім, па-свойму, лепш за іншых.

**– І атрымліваецца?**

– Атрымліваецца. Тут трэба падкрэсліць: я тры гады мясцовых кіраўнікоў і людзей, сваіх парафіян, вучыў казаць: “Нам трэба!” Бо людзі казалі: “Вам трэба!” Мы падзяліліся на кагосьці – гэта ўлада, а гэта мы, народ. Я не здаўся і тры гады даказваў: няма “мы” і “хтосьці”, гэта мясцовая ўлада, а ёсць мы разам. І мне гэта ўдалося. Зараз усе кажуць: “У нас на могілках”, а раней казалі: “У вас на могілках, у вашым парку, у вашым касцёле”. І мы нічога не маглі зрабіць! І я пераконваў казаць: “Нам трэба! На нашых могілках, у нашым касцёле, у нашым парку, у нашай парафіі, у нашай Беларусі!” Нягледзячы на тое, што я замежнік. Я гэта ўспрымаю як ксёндз з пункту погляду веры: не Бог падзяліў людзей на палякаў, беларусаў, амерыканцаў, гэта самі людзі зрабілі.

І тут, на Камайшчыне, шмат каму давялося жыць і паміраць. І трэба гэтай зямлі душу аддаць, не толькі жыццё. Таму і змаглі зрабіць тут нешта, бо людзі перасталі казаць “мы” і “яны”, гэта значыць, улада. Засталося толькі “мы”. Можа, гэта і смешна гучыць, але гэта сур'ёзная рэч.

**– Сапраўды, гэта так. Сам з гэтым сутыкаўся...**

– Так, у нас любяць казаць “вы павінны зрабіць”, “мне павінны”. Вось на могілках ляжаць камяні, касіць дрэнна, бо будзе лёска рвацца. І я чую: “Яны прыйдуць, падбяруць”. Пытаюся: “Хто яны?” Не ведаюць, але нехта павінен прыйсці і падабраць.

І я вучыў людзей, што час змяніўся – ніхто нікому нічога не павінен. Няма ўжо таго, што хтосьці павінен.

**– А адкуль гэта, на Вашу думку, у нашых людзях?**

– Нават не ведаю. Можа і прывучылі людзей да гэтага: не лезьце, не чапайце, мы прыйдзем і зробім. Я родам з Польшчы, у нас гэта крыху па-іншаму выглядае. Можа, таму, што касцёлы ў нас ніколі не зачынялі.

**– Трэба сказаць, што часта і ўлады не вітаюць ініцыятыву знізу...**

– На мяне напачатку тут таксама глядзелі коса. Але пасля пераканаліся: усё, што мы робім, будзе мець прыстойны выгляд і будзе на карысць усім людзям.

**– Вось і стадыён школьны па Вашай прапанове быў абуладкаваны. Чаму менавіта ад вас сыходзіла ініцыятыва?**

– Тут такая перадгісторыя. На ранейшым школьным стадыёне палову плошчы займалі вайсковыя пахаванні нямецкіх жаўнераў часоў Першай сусветнай вайны. Іх разбурылі ўжо пасля перабудовы. Я з такой сям'і, што могілкі для мяне – гэта святое. Гэта не таму, што я ксёндз, гэта сямейнае выхаванне. І я тут стараўся добраўпарадкаваць могілкі. І калі хадзіў па калядзе, людзі мне казалі, што ёсць яшчэ нядобраўпарадкаваныя могілкі нямецкай арміі. Захопнікі яны ці не, мы над гэтым не разважалі. Ёсць гісторыкі, ёсць палітыкі, хай яны разбіраюцца. Бо калі мы ўсе будзем разбіраць гісторыю і палітыку, то ўсяго жыцця не хопіць.

Мы як вернікі добраўпарадкоўваем усе могілкі, хто б там ні ляжаў. І людзі самі хацелі, каб і нямецкія могілкі былі прыбраныя. І мне гэта падабалася ў людзях. Таму нам удалося шмат зрабіць. Хоць напачатку і былі нейкія непаразуменні.

Калі мы забралі ад школы паўстадыёна, то я падумаў, што трэба нешта зрабіць для дзецей. Хоць ніхто мне і не казаў, што вы павінны зрабіць. Але я так падумаў, што мы зробім гэты стадыёнчык, а могілкі хай застаюцца могілкамі.

Мяне яшчэ падштурхнула тое, што закрываюцца малыя школы, і дзеці з усяго наваколля будуць ездзіць на вучобу ў Камаі. Таму і хацелася зрабіць гэты стадыён, бо было для каго.

**– Вось Вы нядаўна паставілі фігуру святога Губерта ля лясніцтва...**

– Тут, як і са стадыёнам, свая перадгісторыя. Побач з касцёлам стаіць будынак лясніцтва, пабудаваны ў 1929 годзе. Гэты будынак быў касцельны. Раней да парафіі належыла шмат вёсак. І зімой тут людзі, калі прыязджалі на конях, саграваліся гарачай гарбатай перад Імшой. Бо касцёл не абаграваўся. Таму вернікі тут грэліся і ішлі на Імшу. Думаю, пасля службы людзі тут таксама саграваліся перад дарогай. Гэта было месца, дзе можна было папіць гарачай гарбаты, адпачыць і сагрэцца. Потым савецкая ўлада гэты будынак ад касцёла забрала пад свае патрэбы.

Калі я прыйшоў сюды працаваць, то якраз абмяркоўвалася пытанне, каб вярнуць яго пабудову. Я так падумаў, што гэты будынак нам усё роўна не аддадуць, бо лясніцтва ў яго ўжо шмат грошай уклала, а нам прапануюць нейкую “развалюху” ўзамен. І мы б толькі падаткі за яе плацілі. Таму я не захацеў тут сварыцца з уладай, бо і лясніцтва ж для людзей, тут жа мае парафіяне працуюць. Вось і паставілі выяву святога Губерта паміж касцёлам і лясніцтвам, паставілі як знак прымірэння, хоць паміж намі і не было ніякіх спрэчак. Губерт стаіць тут як біскуп Касцёла і як апякун паляўнічых.

**– У Камаях нарадзіліся або працавалі шмат знакамітых людзей. Гэта як-небудзь уплывае на ментальнасць вяскоўцаў, на Ваша служэнне?**

– Я людзям кажу: так выхоўвайце дзяцей сваіх і унукаў, каб не заканчвалася тут гісторыя, каб тут нараджаліся новыя знакамітасці. І ксёндз Канстанцін Стаповіч, больш вядомы як паэт Казімір Сваяк, тут пачынаў сваё служэнне. Шкада вось, згарэў нядаўна касцёл у Клюшчанах, дзе святар быў ахрышчаны. Я заязджаў на пажарышча – страшная карціна...

**– Хачу з гэтай нагоды спытаць у Вас як у святара: чаму Бог допускае такія здарэнні, калі гараць храмы?**

– Я чытаў у “Дзённіку Фаўстыны Кавальскай”, калі яна спытала ў Хрыста: “Чаму малыя дзеці хварэюць, яны ж невінаватыя?” І Ён ёй адказаў, што вельмі шмат граху на зямлі. Вядома, чалавек не перастане грашыць, такая ў яго прырода. Але каб не было страшных грахоў, то менш было б на зямлі розных катаклізмаў. І вайной разбуралі касцёлы, але ж не Бог войны ствarae. Я дзецям так кажу: запалка маленькая, але шмат спаліць можа. Так і грэх, нават маленькі, душу раз'ядае вельмі моцна.

Хачу яшчэ вярнуцца да нашага касцёла. Гэта самы старэйшы касцёл у Віцебскай дыяцэзіі, яму ўжо больш за чатыры стагоддзі. Але простаму чалавеку гэта мала што кажа. А калі сказаць, што наш касцёл на паўтара стагоддзя старэйшы за Злучаныя Штаты, на цэлае стагоддзе старэйшы за Санкт-Пецярбург, чалавек гэта запомніць і будзе гэтым ганарыцца.

**– Хочацца спытаць, а як Вы патрапілі ў Беларусь?**

– На гэты конт можна шмат гаварыць. Я нарадзіўся на поўдні Польшчы, ад нас блізка Украіна. І шмат святароў ехала ад нас туды працаваць, і я таксама думаў пра гэта.

Але здарылася па-іншаму. Тут доўгая гісторыя, я коратка распавяду. У 1999 годзе ў нас, у Сандамежы, быў Папа Ян Павел ІІ. І потым з нашай дыяцэзіі вялікая дэлегацыя на шасці аўтобусах паехала ў Рым з візітам у адказ. Я тады служыў вікарыем, ішоў толькі другі год майго святарства, і я павінен быў заставацца ў парафіі замест пробашча, які ехаў у Рым.

Але за тыдзень да паездкі пробашч сказаў, што ён не можа ехаць, і на яго месца павінен ехаць я. У аўтобусе, у якім я ехаў, быў ксёндз-місіянер Генрык 1925 года нараджэння (ён ужо, на жаль, памёр). Я з ім там пазнаёміўся. А ў Рыме экскурсавод папрасіў мяне, каб я ішоў ззаду і сачыў, каб ніхто не адстаў. Гэтым я быў не вельмі задаволены, бо нічога не чуў. А яшчэ да ўсяго дадалася спякота, і ў мяне разбалелася галава. У абедзенны перапынак я сеў ля фантана, каб трохі асвяжыцца. І гэты ксёндз-місіянер падышоў да мяне і сказаў, што ён быў бы вельмі ўдзячны, калі б я змог паехаць ва Украіну. І стаў мне распавядаць пра Львоў. Я не хацеў яго слухаць, бо быў змораны, таму сказаў, што я быў ва Украіне некалькі разоў і ўсё гэта бачыў. А ён мне кажа: “А ты мог бы і ў Беларусь паехаць”. Я не мог зразумець: я ў Рыме, прычым тут Украіна і



Святар дзеліцца сваімі планамі

# што стаў ксяндзом!”

Беларусь? А ён мне распавёў, што сам ездзіць у Докшыцкі раён, у Параф'янава, ксяндзу дапамагаць летам. Пробашч едзе ў Польшчу, а я яго замяняю. Я адказаў, што і добра.

І вось мы вярнуліся ў Польшчу. І перад Пасхай мне прыходзіць пісьмо: ксёндз Тадэвуш Кавальскі вельмі задаволены, што я прыеду ў Параф'янава і буду замяняць яго летам. А я ж нічога не абяцаў! Які Тадэвуш, якое Параф'янава, якая Беларусь?! Я гэта пісьмо да канца не дачытаў і са злосці выкінуў у сметніцу. І вось цікавы момант: я іду ў свой касцёл, а другі ксёндз-вікарый мне кажа: "Вазьмі адпачынак у ліпені, а я ў жніўні". А той ксёндз-місіянер і прасіў мяне прыехаць у ліпені. Я бачу: тут нейкае супадзенне, і вырашыў паехаць, паглядзець, што гэта за Беларусь, бо, можа, больш не будзе такога выпадку.

**“А мне перад ад'ездам нашы людзі казалі: “Не едзь туды, бо цябе там заражуць нажом”.”**

Я прыйшоў пасля Імшы, дастаў пісьмо са сметніцы, выпрастаў яго і стаў уважліва чытаць. А тады, каб паехаць у Беларусь, не трэба была віза. Я прыехаў у Ломжу, а адтуль разам з айцом Тадэвушам мы накіраваліся ў Беларусь. Ён мяне супакойваў, маўляў, не перажывай, будзем удваіх працаваць. І вось мы прыехалі ноччу, а раніцай ён мне кажа, што ён едзе зноў у Польшчу, а я застануся тут адзін.

А мне перад ад'ездам нашы людзі казалі: "Не едзь туды, бо цябе там заражуць нажом". Што цікава, казалі – менавіта заражуць. Ну вось, айцец Тадэвуш паехаў, я а сёмай вечара адправіў Імшу і зачыніў дзверы ў плябаніі, бо ўспомніў, што мяне могуць зарэзаць. Я ўключыў радыё і стаў варыць сабе гарбату. І тут званок у дамафон. Я гляджу ў акно – стаіць дзевяць мужчын, адзін з іх з такім доўгім нажом, другі стаіць ззаду з крыху меншым, у трэцяга – сякера. І яны кажуць: "Адчыняйце дзверы, мы ведаем, што вы там ёсць".

Ведаеце, у мяне ўсё жыццё ў імгненне праляцела перад вачыма. Я ўспомніў тыя словы, што мне казалі ў Польшчы, і падумаў: навошта я сюды паехаў? Я і радыё выключыў, а яны ходзяць вакол акон і стукаюць. Я перахрысціўся і адчыніў дзверы. Аказалася, ксёндз Тадэвуш перад ад'ездам купіў у кагосьці палову тушы свінні, каб мне было што есці. Ён ім заплаціў, яны свінню забілі і палову мне прывезлі. Мужчыны мне падзякавалі, што я прыехаў, што айцу Тадэвушу дапамагаю, і сказалі: хутка прыйдзе жанчына, якая гэта мяса спрадкуе, а самі пайшлі. Вось такое цікавае спатканне было ў мяне з Беларуссю.

А пасля я яшчэ прыехаў сюды на тыдзень зімой, потым яшчэ раз летам. Падчас бежмавання мне біскуп Уладзіслаў Блін кажа: "Застанься тут, у нас ксяндзоў не хапае, я нават табе адзенне сваё дам".

Я вярнуўся ў Польшчу і пайшоў па дазвол да свайго біскупа. А гэты біскуп быў родам з Украіны і разумеў праблемы касцёла на Усходзе. І ён хутка выходзіў на пенсію. Таму я паспяшаўся: а раптам новы біскуп мяне не адпусціць?

І вось на наступны год у красавіку я атрымаў дазвол ехаць у Беларусь. Такім чынам я і патрапіў у Беларусь. Хоць ідэя гэта нарадзілася раней, падчас візіту ў Рым. Бо калі б я не паехаў тады ў Рым, то цалкам магчыма, што ніколі б і не патрапіў у Беларусь. Бо ў нас, на поўдні Польшчы, побач Украіна, Славакія. А Беларусь далёка. Пра яе нават ніхто нічога не ведае.

**– І не пашкадавалі, што прыехалі ў Беларусь?**

– Не, ніколі не шкадаваў. Аднойчы мяне біскуп Уладзіслаў Блін падвозіў з фэсту з Паставаў і пытае: "Як жывецца ў Камаях?" Я пытаюся ў сваю чаргу, пра матэрыяльныя справы казаць ці пра духоўныя? Ён адказвае: "Скажы коратка пра ўсё". І я сказаў: не шкадую, што стаў ксяндзом. Біскуп адказаў, што і ён таксама. А жанчыны з курыі, якія былі на заднім сядзенні, адзначылі, што моцна сказана.

Бо як шкадуеш, як мучаешся, што гэта не тваё, то няма гэтага духоўнага рухавіка. Бо калі і павянчаешся ў касцёле не таму, што сам хацеў, а таму, што бацькі так хацелі, то і жывеш тады адпаведна. І суп можна есці, нават калі ён нясмачны, бо трэба нешта ж есці, а можна есці са смакам.

Я ў касцёле стараюся максімальна не падзяляць людзей, бо як станем дзяліць – той беларус, той паляк, той літовец, той католік, а гэты – праваслаўны, нехта з такой сям'і, нехта з іншай, то нам жыцця не хопіць, каб разабрацца. І працаваць не будзе калі. Для гэтага ёсць палітыкі і гісторыкі, хай яны разбіраюцца. А мы будзем нешта рабіць для нашай зямлі.

***Гутарылі Зміцер Лупач і Леанід Юрык***




**Ксёндз Яцэк Хутман разам з сынам і ўнукамі галоўнага спонсара стадыёна Андрэя Лашука**



**Ксёндз Яцэк Хутман разам з дырэктарам школы Генадзем Рамбальскім**

# Вікарый, афіцыял, генерал?

**Усе вернікі ведаюць, што святар абвяшчае Слова Божае і служыць Божаму народу. А што ты яшчэ ведаеш пра святароў?**

**Правер свае веды ў новым тэсце "Каталіцкага Весніка"**

1 Святар, які ўзначальвае парафію, называецца...



А. Канонік
Б. Пробашч
В. Пенітэнт

2 Дэканат – гэта тэрытарыяльна-адміністратыўная адзінка Касцёла. Некалькі парафій утвараюць дэканат. А як называецца святар, што стаіць на чале дэканата?



А. Дэкан
Б. Прымас
В. Біскуп

3 Гэты святар з'яўляецца кіраўніком і апекуном санктуарыя (святога месца)...



А. Генерал
Б. Кусташ
В. Прэфект

4 Як называецца ксёндз, каторага біскуп прызначае для дапамогі ў пастырскай працы пры пэўнай парафіі?



А. Прэлат
Б. Акаліт
В. Вікарый

5 Такіх святароў са служэннем найчасцей можна пабачыць у шпіталях, вязніцах, у войску і ў іншых грамадскіх установах...



А. Генералы
Б. Капеланы
В. Дэлегаты

6 Святары, якія не з'яўляюцца пробашчамі ці вікарыямі, а толькі пражываюць на тэрыторыі парафіі, маючы іншыя абавязкі ці прабываючы на пенсіі...



А. Інфулаты
Б. Мансіньёры
В. Рэзідэнты

7 Касцельны суд разглядае ўсе спрэчныя справы, якія адбываюцца ў супольнасці хрысціян-католікаў. Як называюць святара, каторы кіруе касцельным судом і забяспечвае дзейнасць судовага працэсу?



А. Пракурор
Б. Афіцыял
В. Суддзя

8 Такі святар дапамагае біскупу ў кіраванні ўсёй дыяцэзіяй. Ён, як і біскуп, таксама з'яўляецца ардынарыем у пэўнай дыяцэзіі і мае права на ўсю выканаўчую ўладу ў паразуменні з дыяцэзіяльным біскупам...



А. Генеральны вікарый
Б. Генеральны пробашч
В. Генеральны прэлат

***Падрыхтавала Ірына Радзевіч***

Правільныя адказы на тэст – на старонцы 12

# Каляндар на ліпень



**2 ліпеня – урачыстасць Найсвяцейшай Панны Марыі Будслаўскай.**

У апошнія гады культ Маці Божай Будслаўскай, Якую называюць Апякункай Беларусі, распаўсюдзіўся па ўсёй нашай краіне. Цэнтр святкавання – невялікая вёска на поўначы Мінскай вобласці, назва якой – Будслаў – вядомая сёння ў Беларусі і за яе межамі. Там знаходзіцца Нацыянальны санктуарый Маці Божай Будслаўскай. Будслаўскі касцёл, адзін з самых прыгожых і вялікіх на нашай зямлі, быў пабудаваны ў XVIII стагоддзі і з'яўляецца малой базілікай. Кожны год у Будслаў ідуць і едуць тысячы пілігрымаў, каб ушанаваць Найсвяцейшую Панну Марыю, папрасіць праз Яе заступніцтва, асаблівых ласкаў Божых і прыняць удзел ва ўрачыстым Будслаўскім фэсце.

**3 ліпеня – успамін святога Тамаша, апостала.**

Святы Тамаш, празваны Дыдым (Блізня), да паклікання ў супольнасць апосталаў быў рыбаком у Галілеі. Калі Езус у Дзень Уваскрасення з'явіўся апосталам, Тамаша сярод іх не было. Ён спачатку не паверыў у Змёртвыхпаўстанне, а таму яго часта называюць "Тамаш, які не верыць". Падчас наступнага з'яўлення ўваскрослы Збаўца звярнуўся да Тамаша, каб той на ўласныя вочы пераканаўся, што перад ім – сам Езус, на што Тамаш усклікнуў: "Пан мой і Бог мой!" Пасля ўнебаўшэсця Хрыста апостал накіраваўся ў місію ў Персію і Індыю, дзе, паводле падання, сустрэўся з трыма каралямі, ахрысціў іх і прызначыў біскупамі. Каля 72 г. прыняў мучаніцкую смерць у Індыі: быў забіты паганцамі мячом або дзідаю. Ён лічыцца апекуном горада Рыгі, а таксама архітэктараў, будаўнікоў і геолагаў. Яго заступніцтва просяць, молячыся пра шчаслівае сужэнства.

**11 ліпеня – успамін святога Бэнэдыкта, абата, апекуна Еўропы.**

Святы Бэнэдыкт – айцец манаства на хрысціянскім Захадзе – нарадзіўся каля 480 г. у Нурсіі (Паўднёвая Італія) і паходзіў з багатай сям'і. Пакінуўшы вучобу ў Рыме, стаў жыць пустэльнікам. Праз пэўны час вакол яго сабралася шмат іншых манахаў. Каля 529 г. ён разам з паплечнікамі заснаваў на поўдзень ад Рыма славуты кляштар Монтэ-Касіна. Асноўным правілам манаскага жыцця ў ім былі словы "Ora et labora" ("Маліся і працуй"), якія сталі дэвізам ордэна бэнэдыктынцаў. У Монтэ-Касіна Бэнэдыкт напісаў статут "Ordo Sancti Benedicti", які стаў асноваю для большасці манаскіх супольнасцяў Захаду. Заснаваны ім ордэн бэнэдыктынцаў на працягу стагоддзяў быў найбольш значным духоўным, культурным і навуковым асяродкам Еўропы. У 590 г. бэнэдыктынец упершыню стаў Папам. Гэта быў святы Грыгорый Вялікі – славуты касцельны рэфарматар, які пакінуў найбольш звестак пра святога Бэнэдыкта (і пазней вельмі часта на Пасадзе святога Пятра знаходзіліся менавіта бэнэдыктынцы). Святы Бэнэдыкт памёр 21 сакавіка 547 г. і быў пахаваны ў Монтэ-Касіна каля магілы сваёй сястры-блізняці святой Схаластыкі. Святы з'яўляецца апекуном Еўропы і ўсяго Захаду, а таксама настаўнікаў і школьнікаў.

**16 ліпеня – успамін Найсвяцейшай Панны Марыі з гары Кармэль (Маці Божай Шкаплернай).**

У XIV ст. на гары Кармель у Палесціне існаваў ордэн, чальцы якога, духоўныя сыны прарока Іллі, называлі сябе братамі Найсвяцейшай Панны Марыі. Кармеліты вялі жыццё, адданае малітве, працы і пакаянню, захоўваючы цноты чысціні, убоства і паслухмянасці. У канцы XIII стагоддзя ў сувязі з пераследаваннямі з боку мусульманаў, рэлігійнымі войнамі з туркамі і заняпадам Касцёла на Святой Зямлі законнікі былі вымушаныя выехаць у Еўропу. Тут, у новым асяроддзі, перад малавядомым законам узнікла пагроза роспуску. У такім цяжкім становішчы генерал закона Сымон Сток пачаў прасіць Марыю, каб Яна захавала прысвечаны Ёй закон. У адказ на шчырую малітву Марыя аб'явілася святому Сымону ў ноч з 15 на 16 ліпеня 1251 г. У атачэнні анёлаў, указваючы на шкаплер, Яна асвяціла яго знакам Сваёй Матчынай апекі, сказаўшы: "Гэта будзе прывілей для цябе і для ўсіх кармелітаў: хто ў ім памрэ, не зведае агню пякельнага". Пасля таго аб'яўлення зніклі ўсе перашкоды і закон пачаў пашырацца па ўсёй Еўропе. Праз 70 гадоў Маці Божая аб'явілася Святому Айцу Яну XXII і, пацвярджаючы папярэднія прывілеі (асаблівую апеку ў зямным жыцці і пазбаўленне ад агню пякельнага), абяцала, што кожны, хто ў момант смерці будзе мець на сабе Яе шкаплер, у першую суботу пасля смерці будзе выведзены з чысцца ў неба.

**25 ліпеня – успамін святога Кшыштафа, які з'яўляецца апекуном кіроўцаў.**

У гэты дзень у каталіцкіх святынях адбываецца блаславёнае кіроўцаў і асвячэнне транспартных сродкаў.

**26 ліпеня – успамін святых Яўхіма і Ганны, бацькоў Найсвяцейшай Панны Марыі.**

Ушанаванне святога Яўхіма і святой Ганны распаўсюджанае ва ўсім Касцёле, як на Усходзе, так і на Захадзе. Па меры таго, як пашыраўся культ Маці Божай, узрастала таксама паўсюднае шанаванне яе бацькоў. Ужо ў IV–V стст. у Ерусаліме пры былой купальні Віфезда была пабудаваная капліца, прысвечаная святым Яўхіму і Ганне. Тут нават, згодна з паданнем, павінна размяшчацца іх грабніца. Іншым месцам іх пахавання лічаць Алейную гару.

Літургічнае шанаванне бацькоў Найсвяцейшай Панны Марыі паўстала спачатку на Усходзе. Свята ўвёў у 710 г. імператар Юстыніян II пад назвай «Зачацце св. Ганны». Яно святкавалася ў розныя дні альбо разам са святам св. Яўхіма. На Захадзе яно стала адзначацца пазней. У Неапалі свята вядомае з X ст. Папа Урбан VI у буле «Splendor æternæ gloriæ» ад 21 чэрвеня 1378 г. дазволіў спраўляць гэтую ўрачыстасць у Англіі. Папа Юлій II у 1522 г. распаўсюдзіў яго на ўвесь Касцёл і прызначыў датай 20 сакавіка. Аднак Папа Павел V у 1568 адмяніў гэтае свята, спаслаўшыся на тое, што пра бацькоў Багародзіцы нічога не паведамляецца ў кнігах Святога Пісання. Тым не менш, перамагло меркаванне, што гэтыя бацькі існавалі і што ім належыць асаблівая пашана. Таму Папа Грыгорый XIII аднавіў свята (1584) і прызначыў для яго дзень 26 ліпеня. Папа св. Пій X у 1911 г. увёў асобны дзень ушанавання св. Яўхіма, прызначыўшы яго на 16 жніўня. Свята св. Ганны працягвала адзначацца 26 ліпеня. Але літургічная рэформа 1969 г. зноў злучыла разам іх імёны ў дзень 26 ліпеня.

*Падрыхтвала Ірына Радзевіч*

# Беларусь у "святых" гербах: Бялынічы

**Працягваючы тэму прысутнасці выявы Маці Божай на гербах беларускіх паселішчаў, не можам абмінуць і Бялынічы.**

**а. Андрэй Сідаровіч**, *марыянін з Росіцы*



Сёння гэтая невялікая па сучасных мерках мясцовасць, можа быць, не ўяўляе для турыстаў ці пілігрымаў надта значнай цікавасці. Але так было незаўсёды. Нездарма ў свой час горад называлі Чэнстаховай для Літвы і Беларусі!

Цяпер розныя святыя месцы прываблівацць вернікаў. Для католікаў Беларусі найважнейшым санктуарыем з'яўляецца будслаўскі. У кожнай дыяцэзіі ёсць свае, лакальныя санктуарыі. Але яшчэ сто гадоў таму нашыя продкі пілігрымавалі часцей у Вострую Браму і Кальварыю ў Вільні. А яшчэ раней, у 18 стагоддзі, менавіта ў Бялынічы.

Герб, які атрымала мястэчка ў 1634 годзе разам з Магдэбургскім правам, не захаваўся на выявах і пячатках. Хутчэй за ўсё, гэта не была выява Маці Божай. Адна з легендаў пра заснаванне паселішча ў 12 стагоддзі распавядае пра цуд з'яўлення ноччу белай выявы Багародзіцы на небе – адсюль Бялынічы, белая ноч. Але з дакументальных крыніц дакладна вядома, што толькі ў сярэдзіне 18 ст. кармеліцкі касцёл і змешчаны ў ім абраз Маці Божай стаў месцам культу і малітвы. Пілігрымкавы рух быў такі вялікі, што Бялынічы дачакаліся параўнання з Чэнстаховай!

Іншая легенда тлумачыць, што абраз у кармеліцкім касцёле меў неймаверную цудадзейную сілу, бо малявала яго не рука чалавека. Паданне кажа, што аднойчы ў кляштар завітаў падарожнік, які з удзячнасці да манахаў намаляваў абраз. А быў ён, гэты чалавек, пасланцам неба, анёлам.

Слава і цудадзейнасць выявы Багародзіцы сталі прызнаныя не толькі звычайнымі людзьмі, але таксама і касцельнымі ўладамі. У 1761 годзе абраз каранавалі, гэта азначае, што яго вылучылі сярод іншых. У гэты час Маці Божая магла з'явіцца на гарадскім гербе. Але дакладна пацвердзіць або абвергнуць такую версію сёння немагчыма.



Пазней Бялынічы і святое месца ў выніку гістарычных падзей перажывалі, хутчэй, заняпад, чым развіццё. Магдэбургскае права і герб адабралі царскія ўлады, а змаганне за аднаўленне грамадзянскіх правоў было прайгранае ў расійскіх судах. І той, хто яшчэ нядаўна быў вольным чалавекам, стаў прыгонным. Кармеліцкі храм адабралі і аддалі праваслаўным, а ў часы бальшавізму цалкам зруйнавалі. Цудадзейны абраз знік у вайну, хутчэй за ўсё, быў украдзены.

Цікава, што Маці Божая Бялыніцкая ўсё ж вярнулася ў свой горад праз 200 гадоў. На пасяджэнні мясцовага райвыканкама Маці Божая была абраная ў якасці асноўнай выявы для герба мястэчка. Галоўную ролю ў гэтым рашэнні адыграў факт, што Яе ўшаноўваюць і католікі, і праваслаўныя. Таму такі герб стаў агульным для ўсіх жыхароў рэгіёна.

# На ліпень прыпадаюць дні нараджэння, імяніны і дні святарскага пасвячэння ў наступных святароў:

**1 ліпеня** – ***дзень нараджэння*** адзначае **кс. Міхаіл Татарэнка** *(Лужкі)*;

**3 ліпеня** – ***дзень нараджэння*** адзначаюць **кс. Юзаф Ганчыц, кс. Віктар Савіцкі, кс. Вячаслаў Дубавец**; ***імяніны*** адзначаюць **а. Томаш Міка OP** *(Віцебск)*, **кс. Анатоль Парахневіч, а. Анатоль Ярошка OFMCap, кс. Тамаш Станзэцкі, кс. Анатоль Захарэўскі**;

**5 ліпеня** – ***дзень нараджэння*** адзначае **а. Браніслаў Дашкевіч OP** *(Віцебск)*; ***гадавіну святарскага пасвячэння*** адзначае **кс. Раман Мурзіч** *(Параф'янава)*;

**6 ліпеня** – ***дзень нараджэння*** адзначае **кс. Багуслаў Вуйтовіч**;

**7 ліпеня** – ***дзень нараджэння*** адзначаюць **кс. Аляксандр Півавар** *(Бешанковічы)*, **кс. Войцех Вальчына MSF**;

**8 ліпеня** – ***дзень нараджэння*** адзначае **кс. Зянон Рамейка SCJ**;

**10 ліпеня** – ***імяніны*** адзначаюць **кс. Віталь Галец** *(Ушачы)*, **кс. Віталь Даніловіч MIC** *(Орша)*, **кс. Віталь Драздоўскі, кс. Віталь Чабатар CMF, кс. Віталь Маргуноў, кс. Віталь Дабраловіч, а. Віталь Слука SChP, кс. Віталь Вайцяхоўскі**; ***гадавіну святарскага пасвячэння*** адзначаюць **кс. Іван Огар SDB, кс. Юзаф Мельдзюк**;

**12 ліпеня** – ***дзень нараджэння*** адзначае **кс. Ян Коўш**;

**14 ліпеня** – ***дзень нараджэння*** адзначаюць **кс. Віталь Даніловіч MIC** *(Орша)*, **а. Міхаіл Ермашкевіч OP** *(Сянно)*, **кс. Антоні Казлоўскі**;

**15 ліпеня** – ***дзень нараджэння*** адзначае **кс. Вінцэнт Лісоўскі**; ***імяніны*** адзначаюць **кс. Уладзімір Заянчкоўскі** *(Лепель)*, **кс. Уладзімір Шымковіч** *(Дуброўна)*, **кс. Уладзімір Гуляй**;

**16 ліпеня** – ***гадавіну святарскага пасвячэння*** адзначаюць **кс. Аляксей Асон** *(Новы Пагост)*, **кс. Генадзь Ляўкоў** *(Друсвяты)*, **кс. Аляксандр Баран** *(Новалукомль)*;

**17 ліпеня** – ***імяніны*** адзначае **кс. Аляксей Раманчук**;

**18 ліпеня** – ***дзень нараджэння*** адзначаюць **кс. Ежы Барташэвіч, кс. Казімір Жэвалеўскі**;

**19 ліпеня** – ***дзень нараджэння*** адзначае **кс. Віктар Бочан CSsR**; ***імяніны*** адзначае **кс. Вінцэнт Лісоўскі**;

**20 ліпеня** – ***імяніны*** адзначаюць **кс. Чэслаў Курэчка MIC** *(Росіца)*, **а. Чэслаў Куцмеж SCJ** *(Паставы)*, **кс. Чэслаў Адамовіч, кс. Чэслаў Паўлюкевіч**;

**21 ліпеня** – ***дзень нараджэння*** адзначае **кс. Вадзім Мізер MIC**; ***гадавіна смерці кардынала Казіміра Свёнтка***; ***гадавіну святарскага пасвячэння*** адзначае **кс. Казімір Ляховіч**;

**22 ліпеня** – ***дзень нараджэння*** адзначаюць **кс. Яўген Міхайлаў** *(Глыбокае)*, **а. Віталь Сапега OP** *(Віцебск)*;

**23 ліпеня** – ***дзень нараджэння*** адзначае ***кс. Аляксандр Сасноўскі***; ***імяніны*** адзначае **кс. Ежы Ігнатовіч**;

**24 ліпеня** – ***дзень нараджэння*** адзначае **кс. Генрык Яблонскі**;

**25 ліпеня** – ***дзень нараджэння*** адзначае **а. Анатоль Ярошка OFMCap**; ***імяніны*** адзначаюць **а. Крыштаф Коц'ян OP** *(Віцебск)*, **кс. Кшыштаф Мянкіна** *(Мёры)*, **кс. Кшыштаф Сілкоўскі SCJ** *(Шаркаўшчына)*, **кс. Кшыштаф Пасвята CSMA**; ***гадавіну святарскага пасвячэння*** адзначаюць **кс. Аляксандр Амяльчэня, кс. Віталь Галец** *(Ушачы)*, **кс. Аляксандр Грыцкевіч** *(Верхнядзвінск)*, **кс. Яўген Міхайлаў** *(Глыбокае)*, **кс. Дзмітрый Рацько** *(Празарокі)*, **кс. Павел Самсонаў** *(Дунілавічы)*, **кс. Аляксей Юркайць**;

**28 ліпеня** – ***дзень нараджэння*** адзначае **кс. Андрэй Бульчак** *(Паставы)*; ***імяніны*** адзначаюць **кс. Віктар Барысевіч OFMCap, кс. Віктар Ханька, кс. Віктар Мыслюк, кс. Віктар Савіцкі, кс. Віктар Субель, кс. Віктар Вялівіс, кс. Віктар Захарэўскі**;

**29 ліпеня** – ***дзень нараджэння*** адзначае **кс. Аляксей Юркайць**;

**30 ліпеня** – ***гадавіну святарскага пасвячэння*** адзначае **а. Станіслаў Памыкала SJ** *(Віцебск)*;

**31 ліпеня** – ***імяніны*** адзначае **кс. Ігнат Санюта**.

**Просім нашых дарагіх чытачоў памятаць пра малітву за гэтых святароў і біскупаў.**

***Падрыхтвала Ірына Радзевіч***

# Святы Ігнацый Лаёла. 31 ліпеня

## Святы, які не баяўся вогнішча інквізіцыі

**Ні адзін з каталіцкіх манаскіх ордэнаў не выклікае такіх эмоцый, як езуіты. Пра езуіцкую хітрасць складаюць прымаўкі. Пра іх здрадлівасць і шкоднасць распавядаюць чорныя легенды.**

■ **а. Андрэй Сідаровіч**, *марыянін з Росіцы*



У чым іх толькі ні папракалі: і ў тым, што гэта ніякая не манаская, а ваенная арганізацыя, якую характарызуе неймаверны ваенны парадак і дысцыпліна, і што адно, чаго прагнуць езуіты, – гэта ўлада ў Касцёле і свеце. Калі б заснавальнік Таварыства Езуса (езуітаў) Ігнацый Лаёла прачытаў стос гэтых асуджэнняў, думаю, пагадзіўся б з адным: так, нас яднае жалезная дысцыпліна і называецца яна "паслухмянасць"!

Менавіта досвед звычайнага свецкага жыцця дазволіў Ігнацыю стаць заснавальнікам аднаго з найбольш вядомых манаскіх ордэнаў. Будучы рыцарам, жаўнерам, чалавекам ваенным, Ігнацый выпрацаваў у сабе нязломную волю да перамогі. У сваёй апошняй ваеннай прыгодзе толькі наўпростае траплянне гарматнага ядра змусіла яго аддаць замак, які абаранялі. Гэтую цвёрдасць, стойкасць пасля свайго навяртання Ігнацый прывіваў сваім духоўным сынам.

Таварыства, каторае ён арганізаваў паводле Божага Провіду з дзесяццю іншымі сябрамі, павінна было мець новыя, у нейкім сэнсе наватарскія правілы жыцця. Так, Ігнацый адмяніў практыку доўгіх харальных набажэнстваў, што выклікала шок у тагачасных іерархаў.



Ён сцвярджаў, што кожны брат сам павінен дайсці да разумення, колькі часу яму маліцца, а колькі прысвяціць службе бліжняму.

Ігнацый звярнуў таксама ўвагу на багацце перажыванняў, пачуццяў, эмоцый, надзей і прагненняў чалавека. Убачыў там месца для духоўнага распазнавання волі Божай і напісаў вядомыя ў каталіцкім асяроддзі духоўныя практыкаванні, якія да сённяшняга дня з'яўляюцца класікай духоўнай літаратуры.

За сваю інавацыйнасць Ігнацый не раз трапляў на прыцэл святой інквізіцыі. У прынцыпе прэтэнзіі не заўсёды фармуляваліся "ты не маеш рацыі", а больш гучалі так: "ты не маеш права пра гэта навучаць". Будучы святы разумеў вялікую патрэбу філасофскай і багаслоўскай адукацыі для сябе і сваіх братоў. Менавіта пад прэсінгам інквізіцыі ён сфармуляваў правіла: кожны брат павінен быць спецыялістам у справе, якую робіць!

Будучага святога вызначала незвычайная паслухмянасць Касцёлу і яго кіраўнікам. Гэта дазваляла глядзець на закіды і на прэтэнзіі не як на перашкоду ў дзейнасці, а як на магчымасць зрабіць карэкціроўку абранага курсу. Так, напрыклад, Ігнацый бачыў сваё Таварыства як ордэн вандроўнікаў. Пасля запрашэння пэўнага свецкага ўладара заняцца бяздомнымі падлеткамі нарадзілася адна з найбольш вядомых педагагічных устаноў у свеце – Езуіцкі калегіум. Адзін з іх, заснаваны ў Полацку, сёння працягвае сваю дзейнасць у Варшаве і называецца ў гонар св. Андрэя Баболі – Bobolanum.

Езуіцкі дэвіз можна пабачыць у многіх касцёлах Беларусі, напрыклад, у Мінску ў катэдры: "Ad maiorem Dei gloriam" ("На большую славу Божую").

# Памёр кс. Ян Шуткевіч, які шмат зрабіў у справе аднаўлення касцёлаў у Беларусі



**4 чэрвеня пасля працяглай хваробы на 85-м годзе жыцця ў Вільні адышоў у вечнасць кс. Ян Шуткевіч.**

Ён нарадзіўся ў сям'і графа Тышкевіча пад Вільняй. Савецкія салдаты забілі яго бацьку, а маці пад прозвішчам Шуткевіч з малым сынам Янам схавалася ў Гродне. Будучы святар вучыўся на дырыжорскім факультэце Маскоўскай дзяржаўнай кансерваторыі. Фармацыю да святарства праходзіў у Каўнаскай духоўнай семінарыі. Прэзбітэрскае пасвячэнне атрымаў у 1983 г.

У гісторыю Касцёла ў Беларусі ўвайшоў як выдатны рэстаўратар. З 1987 па 1994 гг. ксёндз Ян Шуткевіч быў пробашчам парафіі св. Апостала Андрэя ў Лынтупах. Падняў з руінаў і аднавіў касцёл св. Антонія Падуанскага ў Паставах.

У той жа час ён таксама апекаваўся касцёлам св. Яна Хрысціцеля ў Камаях і касцёлам у Лучаі. Дзякуючы яго намаганням і руплівасці святыні тут былі адноўленыя. Гэтым святаром таксама адбудаваныя капліцы ў Мегунах, Маньковічах, Груздове.

У 1994–1997 гг. ксёндз Ян выконваў абавязкі пробашча мінскай архікатэдры Імя Найсвяцейшай Панны Марыі і прычыніўся да яе рэстаўрацыі. Затым з'яўляўся выканаўцам абавязкаў рэктара і рэзідэнта касцёла Святога Барталамея ў Вільні, дзе шмат зрабіў для аднаўлення святыні. Сёння ў гэтым касцёле праходзяць набажэнствы для беларускай дыяспары па-беларуску.

Пахавальная св. Імша адбылася 7 чэрвеня ў касцёле Адшукання Святога Крыжа (пабернардынску) у Гродне. Жалобная св. Імша па спачылым адбылася таксама 7 чэрвеня ў Лынтупах.

*nn.by*

# 35-годдзе святарства

**17 чэрвеня 2017 г. ксёндз Кшыштаф Сілкоўскі, дэкан Шаркаўшчынскага дэканата Віцебскай дыяцэзіі, адзначае 35 гадоў святарства.**

17 чэрвеня 1982 г. малады дыякан атрымаў святарскае пасвячэнне ў Стадніках (Польшча). Пасля гэтага вучыўся ў Каталіцкім універсітэце ў Бельгіі. Сваю службу Богу і людзям наш пробашч распачаў на місіях у Афрыцы (Конга), дзе працаваў дзевяць гадоў. Пасля місійнай службы ў далёкай краіне Пан Бог паклікӑў яго ў 1991 г. да нас у Беларусь.

Спачатку ксёндз Кшыштаф працаваў у Лынтупах. А з 1992 г. пачалася служба ў нашай шаркаўшчынскай парафіі. Дзякуючы яго пастырскай актыўнасці, яго адданасці справе касцёла, арганізатарскім здольнасцям, аўтарытэту і пашане сярод вернікаў ксёндз Кшыштаф Сілкоўскі змог аб'яднаць парафіянаў, а таксама ўсіх людзей добрай волі на карысць вялікай справы – пабудовы касцёла.

З 1997 па 2003 гады пробашч працаваў у пастаўскай парафіі. Але Пан Бог зноў накіраваў яго на Шаркаўшчынскую зямлю, дзе ён служыць па сённяшні дзень.

Шаноўны ксёндз Кшыштаф! Ад усяго сэрца віншуем Вас з 35-годдзем святарскага жыцця! Мы ўдзячныя Вам за Вашу працу, за тое, што Вы на працягу многіх гадоў ведзяце нас па дарозе жыцця з Богам і ўмацоўваеце нашу веру. Дай, Бог, Вам моцнага здароўя, апекі Маці Божай! Няхай палымянае Сэрца Езуса асвячае Ваш далейшы жыццёвы шлях!

***Удзячныя парафіяне***

## Віншуем!



*Паважанаму **ксяндзу Аляксандру Барану** з нагоды Дня нараджэння жадаем моцнага здароўя, шчодрых Божых ласкаў, душэўнага супакою, здзяйснення ўсіх мар, добрых і зычлівых людзей на святарскім шляху! Няхай на Вашым твары заўсёды яснее ўсмешка, а вочы хай зззяюць ад радасці!*

***З малітвай, вернікі чашніцкай парафіі***

## Хвала Хрысту!



*24 чэрвеня – імяніны ў нашага **вікарыя Івана Кароткіна**. З гэтай нагоды мы ад усяго сэрца віншуем ксяндза Івана! Дзякуем за адданую працу ў нашай парафіі, за шчырую малітву і за абвяшчэнне Божага слова, за ўсмешку, за добрыя словы, з якімі ён заўсёды сустракае кожнага!*

***Вернікі парафіі Святой Тройцы ў Глыбокім***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!



*Дасылаем шчырыя віншаванні **ксяндзу Аляксандру Дулінцу** з нагоды 15-годдзя са дня пасвячэння ў святары (13 чэрвеня).*

*Шаноўны ксёндз Аляксандр! Складаем Вам сардэчныя пажаданні здароўя на доўгія гады, супакою, Божай міласэрнасці, апекі Маці Божай, святла Духа Святога!*

*Вось ужо на працягу пятнаццаці гадоў Вы абвяшчаеце вернікам Божае слова і пяць гадоў служыце ў нашай парафіі. За гэты час для многіх Вы сталі мудрым дарадчыкам, добрым слухачом, прыкладам веры і надзеяй на Божую дапамогу.*

*Няхай супольная малітва ўзнясецца да неба і будзе шчырай удзячнасцю за святара, якога нам паслаў Пан Бог! І добры Бог хай дапамагае ў пашырэнні Божага Валадарства на зямлі, абвяшчэнні Божага слова і рэалізацыі паклікання! Няхай усе Вашы мары і задумкі здзяйсняюцца!*

***З вялікай пашанай, вернікі парафіі Найсвяцейшага Сэрца Езуса з Падсвілля***

***



***Калі не ладзіцца ў жыцці***
***І невядомая дарога,***
***Не ведаеш куды ісці –***
***Ідзі да Бога.***

***Ён дапаможа несці крыж,***
***Адгоніць смутак і трывогі.***
***Звярніся да яго, пакліч,***
***Даверся Богу.***

***Калі ў душы святочны май,***
***Шчаслівых момантаў так многа,***
***Ты радасцю не забывай***
***Дзяліцца з Богам.***




***Давер яму сваё жыццё,***
***Хвілін так многа.***
***На момант хоць забудзь пра ўсё,***
***Застанься з Богам.***

***Чакае кожнага ён з нас***
***Цярпліва, доўга.***
***Каб кожны дзень і кожны час***
***Жылі мы з Богам!***

***Даната Варабей**, г. Мядзел*

## Хвала Хрысту!

*Шчыра віншуем з Днём нараджэння (15 чэрвеня) нашу **сястру-закрыстыянку Людмілу Рубніковіч**!*



*Няхай Маці Божая Падхорная заўсёды атуляе сваім плашчом апекі, Дух Святы хай адорвае сваімі дарамі і ўсе ласкі Божыя сыходзяць на Вас, дарагая сястра Людміла! Жадаем аптымізму, неабходных сіл для рэалізацыі планаў, натхнення для ўпрыгожвання нашай святыні.*

***Парафіяне касцёла Святой Тройцы ў Глыбокім***

## Паважаны наш ксёндз-пробашч Алег!



*З нагоды імянін жадаем Вам Божага блаславлення ва ўсіх Вашых справах, апекі Маці Божай, каб на Вас заўсёды сыходзіў Дух Святы, каб быў побач Анёл Ахоўнік і дапамагаў Ваш заступнік святы Антоній Падуанскі! Здароўя Вам і Вашым родным, цярпення ў Вашай нялёгкай працы на ніве Пана, каб побач з Вамі заўсёды былі надзейныя сябры і годныя калегі!*

***Усемагутны хай Вам дапаможа***
***У малітве і працы трываць!***
***І крыніцу жыцця – Слова Божае –***
***Годна свету ўсяму абвяшчаць.***
***Хай жа поўняцца светлаю радасцю***
***Кожны дзень Ваш і кожны час!***
***Пад апекаю Божай Маці***
***Жыць заўжды сярод людзей, нас!***

***З павагай, парафіяне валкалацкай парафіі***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!



*Шчыра віншуем былога пробашча нашай парафіі **ксяндза Паўла Самсонава** з нагоды імянін (29 чэрвеня)! Жадаем яму моцнага здароўя, духоўных і фізічных сіл для далейшага служэння, шчодрай Божай дапамогі, натхнення, цярплівасці і вытрымкі на доўгія гады!*

***Хай ад Бога Айца Вам здароўе даецца,***
***І як Сэрца Езуса праменіцца Вашае сэрца!***
***Хай ад Духа Святога даецца Вам мудрасць і сіла,***
***А ад Божай Маці – разважнасць, ласкавасць, цярплівасць!***

***Ад імя парафіян канстанцінаўскай парафіі, Часлава Вышадка***

## Віншуем з Днём нараджэння!



*1 ліпеня адзначае Дзень нараджэння наш паважаны, добразычлівы і чулы **айцец Багдан**. Шчыра віншуем яго з гэтай нагоды!*

*Жадаем Божай падтрымкі ва ўсіх справах Вам, дарагі наш айцец Багдан! Шчырых і ветлівых людзей на Вашым шляху, ажыццяўлення ўсіх планаў і задумак! Жадаем поспехаў у душпастырскай працы, Божай ласкі, добрага здароўя, радасных хвілін, прыгожага і багатага плёну!*

***З вялікай павагай і ўдзячнасцю, вернікі будслаўскай парафіі Унебаўзяцця НПМ з в. Яцкавічы і в. Ілава***

**Правільныя адказы на тэст, змешчаны на старонцы 9**

**1 – Б, 2 – А, 3 – Б, 4 – В, 5 – Б, 6 – В, 7 – Б, 8 – А**

## Пахвалёны Езус Хрыстус!



*Дасылаем віншаванні нашаму **ксяндзу Яну Пугачову** з імянінамі (24 чэрвеня).*

*Хочацца выказаць словы глыбокай пашаны і падзякі за тое, што ксёндз робіць для нас. Дзякуючы ксяндзу Яну адрэстаўраваны стары абраз Маці Божай Шкаплернай, якому больш за сто гадоў. Цяпер гэты абраз будзе наведваць кожны каталіцкі дом. Многа змяненняў адбылося і ў самім касцёле. Разумны, спагадлівы і працавіты, ксёндз Ян стаў для нас прыкладам самаахвярнага служэння Богу і людзям. Кожнае яго слова западае ў душу, спрыяе духоўнаму ачышчэнню.*

*Паважаны ксёндз Ян! Жадаем Вам Божага блаславення і моцнага здароўя. Няхай Святы Дух натхняе Вас на плённую і доўгую святарскую службу!*

***З удзячнасцю і павагай, парафіяне з Ёдаў***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!

*Сардэчна віншуем нашага **ксяндза Яна Пугачова** з імянінамі.*

*Шаноўны ксёндз Ян! Дзякуем Вам за Вашу святарскую працу, за Ваша добрае сэрца, за шчырасць, мудрасць, за любоў да Пана Бога, якая з'яўляецца добрым прыкладам для ўсіх нас! Ад усяго сэрца жадаем Вам моцнага здароўя, неабходных сіл у святарскім служэнні, душэўнага спакою, шмат адкрытых і шчырых сэрцаў, а таксама Божых ласкаў на кожны дзень жыцця!*

***Апостальскі рух «Маргарытка» касцёла Перамянення Пана, в. Германавічы***

## Паважаны ксёндз Анджэй Бульчак!



*17 гадоў служэння – гэта 17 гадоў малітвы і ахвярнай працы. Гадавіна – добрая магчымасць для радасці і ўдзячнасці. Менавіта таму мы дзякуем Усемагутнаму Богу за тое, што выбраў Вас нашым пробашчам.*

*Дзякуем Вам за настойлівасць у веры і ў нясенні Божага слова ўсім людзям! Жадаем Вам заўсёды быць поўным святла і моцы Духа Святога. Няхай кожны дзень Вашага пастырскага жыцця будзе блаславлёны, сонечны і шчаслівы, сэрца хай напоўніцца сапраўднай радасцю!*

*Жадаем усіх Божых ласкаў і апекі Маці Божай! Няхай Дух Святы ніколі не пакідае Ваша сэрца, а Збаўца хай вядзе па прыгожым, хоць і цяжкім шляху пастырскага служэння!*

***Вернікі***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!



*Дасылаем пяшчотныя словы віншавання, вялікай удзячнасці нашаму **святару Антонію Лагунёнку** з нагоды імянін (13 чэрвеня).*

*Жадаем Вам, паважаны ксёндз Антоні, плёну ў працы на Божай ніве, моцнага здароўя, апекі Маці Божай, дароў Духа Святога. Няхай Пан Бог дапамагае Вам ажыццявіць Вашы планы і задумы!*

*Мы дзякуем Пану Богу за дар Вашага жыцця і за ласку спаткання з Вамі ў нашай парафіі. Вялікі дзякуй і нізкі паклон бацькам за сына-святара, якога мы любім і паважаем!*

***Хай Вас адорыць Божа Міласцівы***
***Сваёю ласкай, дабрынёй, цяплом!***
***І хай супольнасць наша Вас называе***
***Славутым нашым святаром!***

***Ад удзячных вернікаў канстанцінаўскай парафіі, Часлава Вышадка***

# Што значыць маліцца да Беззаганнага Сэрца Марыі?

*"Хвала Хрысту! Маю наступнае пытанне: што значыць маліцца да Беззаганнага Сэрца Марыі? Калі молімся проста літанію да Панны Марыі, то там усё зразумела! Мы звяртаемся непасрэдна да Панны Марыі, ушаноўваючы Яе ў закліках... Але ў чым тады розніца, калі мы молімся менавіта да Сэрца Марыі, і звароты ідуць да «Сэрца»?"*
Лізавета



**На пытанне адказвае айцец Андрэй Сідаровіч MIC з Расіці:**

– У Касцёле культ Сэрца Марыі існаваў ужо у 12 ст. Па-рознаму развіваўся і розныя прымаў формы. У 19 ст. адно з брацтваў, прысвечаных Беззаганнаму Сэрцу Марыі, налічвала больш за 20 мільёнаў чальцоў! Адкуль такая папулярнасць? І чаму менавіта сэрца?

Пра сэрца Марыі можам прачытаць нават у Святым Пісанні. Там знойдзем у евангеліста Лукі два фрагменты.

***"А Марыя захоўвала ўсе гэтыя словы, разважаючы ў сэрцы сваім".*** Лк 2,19.

***"А Маці Яго захавала ўсе гэтыя словы ў сэрцы сваім".*** Лк 2,51.

Евангеліст Лука, як кажа традыцыя, быў лекарам і разумеў, якім важным органам для чалавека з'яўляецца сэрца. Аднак ён выкарыстоўвае гэтае слова згодна з габрэйскай і хіба што з агульначалавечай традыцыяй, як паняцце духоўнае. Сэрца – гэта месца, дзе чалавек збірае, назапашвае свой духоўны і жыццёвы досвед. Мы, безумоўна, маглі б спрачацца і казаць: не, гэта розум, памяць і т. д. Але нават у нашай мове не кажам "баліць розум за чалавека" альбо "памяць перажывае трывогу". Кажам – "сэрца крывёй абліваецца"! І гэта дасяоўна не азначае, што ў нас пачаліся нейкія фізіялагічныя працэсы, а тое, што мы як асоба перажываем за канкрэтную справу ці канкрэтнага чалавека. У гэтым сэнсе сэрца – гэта мы, гэта я. Таксама і з сэрцам Марыі. Яе Сэрца – Яна Сама!

Культ Сэрца Марыі, які, дарэчы, развіваецца паралельна з культам Сэрца Езуса, – гэта спроба вернікаў наблізіць Яе да сябе. Сэрца – гэта напамін пра чалавечнасць, пра тое, што Марыя – сапраўдная гістарычная постаць. Сапраўдная Асоба, Якая жыла, перажывала, цярпела. Калі параўнаем заклікі розных літаній, то заўважым вялікую розніцу. Напрыклад, Ларэтанская літанія – гэта гімн праслаўлення Марыі, гэта зварот да Марыі-Трыумфаткі, да Нябеснай Валадаркі. А літанія да Беззаганнага Сэрца – гэта малітва да Марыі ў перажыванні, Якая церпіць, ёсць Зямная. Блізкая і зразумелая звычайнаму чалавеку.

Выкарыстоўваючы розныя малітвы Касцёла, мы адкрываем вялікую, бяздонную скарбніцу разумення ролі Марыі ў нашым жыцці!

# Як Касцёл ставіцца да жадання адзінокай дзяўчыны ўсынавіць дзіця?

*"Хвала Хрысту! Скажыце, калі ласка, як Касцёл ставіцца да жадання адзінокай дзяўчыны ўсынавіць дзіцятка? Разумею, што ў гэтым учынку няма нічога дрэннага, але мяне непакоіць думка, што ад пачатку ведаю: магчыма, гэтае дзіця будзе без бацькі. Вельмі хачу дзетак, але так складваецца, што не маю мужа. Дзякуй!"*
Марыя



**На пытанне адказвае а. Аляксандр Махнач SP, піяр, магістр тэалогіі, Ліда:**

– Марыя, напэўна, кожнае дзіця, якое не мае мамы і таты, патрабуе іх – гэта натуральна! Касцёл заахвочвае і ўхваляе ўсынаўленне самотных дзяцей. Для натуральнага эмацыйнага развіцця дзіцяці патрэбныя і бацька, і маці. Роля кожнага з іх вельмі важная ў развіцці дзіцяці. Не можа маці даць дзіцяці тое, што можа і павінен даць бацька. Таксама і наадварот: бацька не заменіць на сто адсоткаў маці. Калі гэтага няма, то маем дачыненне з паталогіяй, нават калі самотная маці ці самотны бацька вельмі добрыя і адказныя людзі. Для правільнага развіцця малога гэтая сітуацыя паталагічная.

Іншая справа, калі ў сям'і памірае тата. Пасля пахавання ў дзіцяці прысутнічае боль, смутак, слёзы, але пасля перажыцця ўсіх гэтых негатыўных эмоцый дзіця можа ўчыніць крышталізацыю сваіх думак і ўрэшце натуральным чынам пагодзіцца з рэчаіснасцю.

Калі тата сыходзіць з сям'і і пакідае дзяцей толькі з маці, то тады маленькія вінавацяць сябе ў тым, што бацькі разышліся, перажываюць розныя страхі. Нават трапляюць у дэпрэсію, сцвярджаючы, што не заслугоўваюць любові. Са стратай бацькі дзеці пазбаўляюцца пачуцця бяспечнасці, магчымасці лепшай адукацыі, лягчэйшага старту ў дарослае жыццё. Дзіця, якое выхоўваецца без таты, таксама страчвае сваю самасвядомасць. Гэта траўма для дзіцяці.

Маленькія дзеткі часта пытаюцца ў матулі: "А дзе мой тата? Адкуль я ўзяўся? Дзеці хочуць ведаць свае карані. Адсутнасць бацькі – гэта напалову меншая крыніца бацькоўскай любові, а мама часта не мае сіл і не можа любіць за абоіх бацькоў.

Дзяўчынкі, якія выхоўваюцца без таты, не адчуваюць сябе добра ў ролі жанчыны. Па статыстыцы дзяўчынкі, якія выхоўваліся без бацькі, маюць ранніх інтымныя адносіны, не будучы ў шлюбе, выхоўваюць дзяцей, часцей разводзяцца. Яны няспынна шукаюць сапраўдны ўзор мужчынскасці.

Хлопцы, якія выхоўваюцца без таты, таксама пазбаўленыя сапраўднага мужчынскага ўзору. Бацька дазваляе сыну зразумець, што значыць быць мужчынам. Калі няма таты, узору мужчынскасці, то тады хлопец шукае яго сярод равеснікаў, якія часта даюць дрэнны прыклад. Хлопец замест таго, каб вучыцца непасрэдна ад свайго бацькі – узору мужчынскасці, вучыцца стэрэатыпу мужчынскасці ў іншых. Тата дае магчымасць дзіцяці зразумець, што быць сапраўдным мужчынам – гэта быць дапамогай для слабейшага, апекавацца, клапаціцца, падтрымліваць, шанаваць іншага чалавека.

Здаровае выхаванне – гэта выхаванне праз тату і маму. Жанчына і мужчына дапаўняюць сябе ва ўзаемнай бацькоўскай працы, выхоўваючы сваё дзіця. Калі няма аднаго з бацькоў, заўсёды найбольш у гэтай сітуацыі страчвае дзіця. Адсутнасць таты – гэта таксама недахоп і маці, таму што самотная маці мае менш часу для дзіцяці, цяжка працуе, часта перажывае стрэс, а таксама шукае яшчэ новага партнёра. Маленькі скарб, дзіцятка, становіцца ўдвая больш самотным.

Таму калі самотная асоба хоча ўсынавіць дзіця, то трэба добра падумаць, усё гэта асэнсаваць і адказаць сабе на пытанне: "Усынаўленне будзе дабром для дзіцяці ці за гэтым ўсынаўленнем я хачу схавацца ад сучаснага свету, ад адносін з людзьмі, ад мужчын, ад сваіх нейкіх страхаў?"

Дзіця – гэта не ўласнасць, каб заспакоіць свае нерэалізаваныя бацькоўскія ці мацярынскія патрэбы. Дзіця – гэта дар Божы!

# НЕБАСКРОБ? НЕБАСЯГ? ХМАРАЧОС? ЯК ЛЕПШ СКАЗАЦЬ ПА-БЕЛАРУСКУ?

**Сёння ў нашай мове назіраецца паралельнае ўжыванне як мінімум двух назоўнікаў для абазначэння вельмі высокага будынка, які можа дасягаць у вышыню нават некалькіх соцень метраў.**

**Юрась Бабіч**, *кандыдат філалагічных навук*

Гэта тое, што паанглійску *skyscraper* ці па-нямецку *Wolkenkratzer*. А паруску – *небоскрёб*. Менавіта калька з рускай мовы і трапіла ў савецкія часы ў нашы слоўнікі ды яшчэ раз-пораз і цяпер ужываецца ў беларускіх тэкстах. Але кожны, хто мае хаця б мінімальнае адчуванне прыгажосці беларускай мовы, разумее ўсю недарэчнасць падобнай сітуацыі. Гэта прыблізна тое самае, што казаць па-беларуску, напрыклад, *настаяшчы, інцерэсны* ці *прыключэнія*.

Як вядома, першым высокім будынкам падобнага кшталту прынята лічыць дзесяціпавярховы Home Insurance Building, пабудаваны ў Чыкага ў 1884-1885 гадах, над якім у 1891 годзе былі надбудаваныя яшчэ два паверхі. У 1890-ым годзе ў Нью-Ёрку быў узведзены яшчэ адзін "высотнік" – дваццаціпавярховы New York World Building. Але ніводзін з гэтых гмахаў, калі б быў узведзены ў ХХ стагоддзі, не мог бы ўжо прэтэндаваць на адпаведную назву. Гэта для тых часоў такія вышыні былі даволі значнымі, а ў ХХ стагоддзі тэхналогіі сталі іншымі.

У Беларусі фактычна няма "высотнікаў", якія б мелі больш за сто метраў. Зразумела, мы не бяром у разлік пэўныя вежы рознага прызначэння. Але ў нашай мове актыўна выкарыстоўваецца назоўнік для абазначэння згаданага паняцця. І гэта слова *хмарачос*.

*Хмарачос* – метафарычнае ўтварэнне, якое абазначае вельмі высокі будынак. Настолькі высокі, што ён нібы "расчэсвае хмары". Розныя перыядычныя выданні, не кажучы ўжо пра вуснае маўленне, рэгулярна выкарыстоўваюць на сваіх старонках дадзены назоўнік. Праілюструем гэта на прыкладах з розных крыніц апошніх некалькіх гадоў: *Яшчэ ў 2006 годзе масквічы адхапілі "гуртам" некалькі прэстыжных тэрыторый у Мінску: "Мінск-сіці", **хмарачосы** каля станцыі метро "Фрунзенская"...* (Наша ніва, 20.10.10); *У сталіцы ЗША забаронена будаваць дамы вышэйшыя за Капітолій, таму ў горадзе абсалютна няма **хмарачосаў*** (Наша ніва, 6.04.11); *На беразе Каспійскага мора ўлады Азербайджана плануюць пабудаваць новы горад, сімвалам якога стане **хмарачос** "Вежа Азербайджана"... Калі праект удасца рэалізаваць, гэта будзе самы высокі будынак свету, які абгоніць **хмарачос** у Дубаі на 200 метраў* (Наша ніва, 7.11.12); *"Даўнтаўн" ад прыгарадаў можна адрозніць па канцэнтрацыі **хмарачосаў**...* (Новы час, 28.01.11); *За офіс у першым беларускім **хмарачосе** трэба адаць больш за 100 тысяч долараў* (Народная воля, 15.03.13); *У Нью-Ёрку прайшоў традыцыйны забег на верхні паверх славутага **хмарачоса** Эмпайрстэйт-білдынг* (Звязда, 3.02.11); ***Хмарачосы** растуць у прамым сэнсе на вачах* (Звязда, 1.10.15); *Да 2116 года на сушы з'явяцца шматлікія **супер-хмарачосы** вышынёй у некалькі кіламетраў... Ужо праз адно стагоддзе на нашай планеце з'явяцца класічныя **хмарачосы** небывалых памераў, так званыя "негатыўныя **хмарачосы**", якія сыходзяць не ўвышыню, а пад зямлю...* (Звязда, 29.03.16); *Будынак уласнай ганконгскай штаб-кватэры – футурыстычны **хмарачос*** (Звязда, 23.02.17).

Як бачна, розныя папулярныя перыядычныя выданні выкарыстоўваюць адметны беларускі назоўнік. Тут дарэчы будзе прыгадаць адпаведныя словы з іншых славянскіх моў: *mrakodrap* (у чэшскай і славацкай, дзе *mrak* – воблака), *drapacz chmur* (у польскай, дзе *chmura* – воблака, хмара), *хмарочос* (ва ўкраінскай), *neboder* (у харвацкай), *облакодер* (у сербскай) і г.д. Няцяжка ўбачыць, што ва ўсіх выпадках назоўнік утвораны на аснове метафарычнага спалучэння. І беларуская лексема выдатна ўпісваецца ў гэтую традыцыю.

Праўда, у пачатку ХХІ стагоддзя ў нашай мове ўжываўся ў падобным значэнні і іншы назоўнік – *небасяг*. Яго матывацыя таксама празрыстая, а характар словаўтварэння не пярэчыць лінгвістычным мовы. Праілюструем ужыванне названай лексемы ў публіцыстычных тэкстах: *Напрыканцы будоўлі агульная вышыня **небасяга** будзе 133 метры...* (Наша ніва,8.06.11); *Да сённяшняга дня будаўніцтва **хмарачосаў** стрымлівалася папяровымі абмежаваннямі... У 2009 Мінархітэктуры і будаўніцтва дабілася прыняцця новых дакументаў, якія далі дарогу **небасягам**... Рынкай комплексу стане першы сапраўдны мінскі **хмарачос** – вежа ў 80 паверхаў* (Наша ніва, 31.08.11). У апошнім выпадку абодва адметныя беларускія словы выкарыстаныя ў межах аднаго мікракантэксту, што дазваляе пашырыць сінанімічныя рэсурсы беларускай лексікі. Тым не менш на сённяшні дзень менавіта назоўнік *хмарачос* з'яўляецца асноўным, а апелятыў *небасяг* выступае як сінанімічнае паняцце і мае больш нізкую частотнасць выкарыстання ў штодзённай практыцы.

Такім чынам, у беларускай мове для абазначэння высокага будынка сёння варта ўжываць слова *хмарачос* (як варыянт – *небасяг*), але немэтазгодна выкарыстоўваць пазычанне з рускай мовы *небаскроб*. Гэта дазволіць пазбегнуць непажаданых асацыяцый з так званай "трасянкай" і будзе садзейнічаць павышэнню культуры ўласнага беларускага маўлення.



## Словы падзякі святару

**Хвала Хрысту, паважаныя браты і сёстры ў Хрысце!**

Вітаюць вас вернікі з парафіі Перамянення Панскага з агр. Германавічы. Мы ўсе хочам выказаць сардэчныя словы віншавання з нагоды дня нараджэння (3 чэрвеня) нашаму пробашчу, **ксяндзу віцэ-дэкану Яну Пугачову**. Вядома, што няма на свеце місіі больш прыгожай і высакароднай, чым служыць ад Божага Імя, абвяшчаць Божае слова, ачышчаць і вызваляць людскія сэрцы ад грахоў, несці святло Божай любові ў свет. Таму, шаноўны ксёндз Ян, мы, вернікі, з усёй глыбіні сэрца дзякуем міласэрнаму Богу за Вашу святарскую паслугу, за Вашыя сілы, мудрасць, шчырасць і адданасць Богу і нам, людзям, за добразычлівасць і гатоўнасць заўсёды зразумець і прыйсці на дапамогу ў любой жыццёвай сітуацыі. Якое шчасце, шаноўны пробашч, што Бог выбраў менавіта Вас весці нас дарогай да неба, дапамагаць нам у пошуках сэнсу зямнога існавання; вучыць нас любіць Бога, сваіх бліжніх; з пашанай ставіцца да навакольнага свету, любіць і цаніць усю тую прыгажосць, якую дае нам Пан Бог, з той шчырасцю і радасцю, з якой робіце ўсё гэта Вы!

Вялікі дзякуй Вам за тое, што Вы змаглі адчуць у сабе голас Бога і не пабаяліся, нягледзячы ні на што, адказаць на яго прапанову. Мы верым, што ўсе Вашыя словы, скіраваныя да нас, шчырая сумесная малітва падчас набажэнстваў сеюць у нашых душах зерне сапраўднай хрысціянскай дасканаласці, якое, магчыма, прарасце, дзякуючы Вам, багатым плёнам.

Вялікі дзякуй Вам за тую прыгажосць, якая з'явілася, з Вашым прыходам да нас, навокал касцёла, у вёсцы, за тое жаданне жыць, за веру ў тое, што Бог нас ніколі не пакіне і заўсёды дапаможа, толькі трэба шчыра верыць у яго дабрыню і любоў, і самім сеяць навокал добрае і прыгожае.

Таму, шаноўны пробашч, жадаем Вам здароўя і плёну ў працы, сілы на ніве Хрыстовай змагацца, верных сяброў, справядлівага лёсу, вернікаў шчырых, памкненняў узнёслых!

Будзем пра гэта прасіць Пана Бога і апекуна Святога Яна.

***З нізкім паклонам і падзякай, парафіяне з агр. Германавічы***

## Фигура Матери Божьей Фатимской побывала в Бешенковичах

**Одна из главных святынь католического мира – фигура Матери Божьей Фатимской, символизирующая чудеса и пророчества, явленные миру 100 лет назад в Португалии, – 10 июня прибыла в Бешенковичи.**

**Виктория Апанасёнок**

Перегринация фигуры Матери Божьей Фатимской по Витебской епархии началась 13 мая 2017 года в Шумилино. Кроме Бешенкович фигура «посетила» приход в Улле, а также каплицу Матери Божьей Будславской в Кардоне. Планируется, что во время перегринации фигура будет представлена во всех приходах Витебской епархии.

Как отметил настоятель бешенковичского прихода кс. Александр Пивовар, приветствовать фигуру Матери Божьей собралось достаточно много людей. Пришедшие в молитве просили здоровья и духовной помощи, а во время прощания с изображением Матери Божьей Фатимской дети, молодежь и взрослые благодарили Ее за милости и дарили цветы.



# Канікулы ў Лепелі



**Група дзяцей (22 асобы) і дарослых (5 чалавек) разам з пробашчам кс. Андрэем Аніскевічам і сястрой М. Крыст'янай Венгерскай з катэдральнай парафіі Езуса Міласэрнага ў Віцебску прынялі ўдзел у "міні-канікулах" у вёсцы Слабодка Лепельскага раёна (Кардон Доўгае).**

**Сястра М. Крыст'яна Венгерска**

Гэта быў падарунак на канікулы ад кс. пробашча для дзяцей нашай парафіі. Да паездкі рыхтаваліся загадзя. Бацькі разам з сястрой Крыст'янай выпеклі смачнае пячэнне, макаўцы, кексы.

Галоўнай мэтай гэтай вандроўкі быў адпачынак і гульні на свежым паветры. Трэба сказаць, што малітва дзяцей аб добрым надвор'і была пачутая, і кожная раніца пачыналася прыгожым узыходам сонца і спевам птушак.

Першым моцным уражаннем, калі мы дасягнулі мэты нашага падарожжа, стала свежае паветра, напоўненае пахам соснаў, і прыгожы пейзаж: возера, лес, драўляныя домікі ў промнях сонца.

Кожны дзень пачынаўся і заканчваўся сумеснай малітвай. Дзеці сілкаваліся смачнай ежай, прыгатаванай бацькамі і сястрой Крыст'янай. Бацькі з вялікай самаадданасцю клапаціліся пра сваіх сыноў і дачок, прымалі ўдзел у гульнях, забавах, таксама стараліся зацікавіць іх сваімі творчымі ідэямі. Дзеці ўдзельнічалі ў розных забавах: гульні, конкурсы, танцы, футбол, грыль. Асабліва вялікае захапленне выклікалі лазертаг і катанне на катамаранах.

Ксёндз-пробашч кожны дзень забяспечваў нас патрэбнымі прадуктамі і прысмакамі, напрыклад, марозівам.

Завяршыліся канікулы конкурсамі "Самы культурны чалавек", "Ці ведаеш імёны?", "Тваё паводзіны", "Самы чысты пакой", а таксама словамі падзякі дзяцей апекунам і ўручэннем букетаў прыгожых лясных кветак.

Дзеці вярталіся дамоў, напоўненыя цудоўным водарам свежага паветра, уражаннямі і радасцю ад новага сяброўства з Богам і людзьмі.

***Са старонак газеты хочам выказаць сардэчную ўдзячнасць ксяндзу-пробашчу Андрэю Аніскевічу за гэты вялікі падарунак, за шырока адкрытае сэрца!***

## Танцы з "Імпэтам" у віцебскім "Карытас"

**Амаль чатыры месяцы на базе дабрачыннага каталіцкага таварыства "Карытас" Віцебскай дыяцэзіі функцыянуе студыя інклюзіўнага танца пад назвай "Імпэт".**

Інклюзіўныя танцы – гэта занятак, дасяжны для ўсіх без выключэння, для людзей з рознымі формамі інваліднасці і без яе. Гэта парныя, сольныя і калектыўныя танцы на вазках і не толькі. Гэта добрая танцавальная рэлаксацыя і рэабілітацыя.

На дадзены момант у студыі займаецца каля дваццаці чалавек "на ножках", а таксама дзве комбі-пары ў танцах на вазках. На занятках мы спрабуем сябе ў розных танцавальных накірунках: ад мадэрну да народнага танца. Найбольшае значэнне надаецца працэсу, насычэнню заняткаў і атмасферы. Мы імкнёмся падчас кожнай наступнай сустрэчы зрабіць маленькі крок наперад: раскрыцца, станцаваць сваю ўласную гісторыю, падтрымаць партнёра. Сёння нам крыху нестае валанцёраў, якія хацелі б дапамагчы людзям з пэўнымі абмежаваннямі лепей адчуваць сябе ў танцы. Мы не шукаем прафесіяналаў. Нам патрэбныя тыя, хто вельмі хоча танцаваць, але па нейкіх прычынах дагэтуль не адважыўся, а яшчэ вельмі хоча дапамагчы з асваеннем такога навыку іншым.

Заняткі ў студыі "Імпэт" адбываюцца кожныя серады і пятніцу, пачатак – а 13.30 у памяшканні кавярні пры касцёле Езуса Міласэрнага ў Віцебску. Калі дагэтуль вы танцуеце толькі ўнутры сябе – час нешта змяніць і далучыцца да нас!



Па ўсіх пытаннях тэлефануйце: **+375 29 548 02 94 Марына Булатоўская** *(кіраўнік студыі)*.

Наша суполка ў інтэрнэце: https://*vk.com/impet_dance*

# Вялікі дзякуй святару

**Наш былы пробашч Алег Півавар працаваў у парафіі святога Айца Піа ў мястэчку Лёзна адзінаццаць гадоў. Цяпер ксёндз Алег служыць у парафіі Святога Яна Хрысціцеля ў Валкалатах.**

13 чэрвеня ксёндз Алег адзначае імяніны. Сваёй высакароднай святарскай працай, добрасумленнем ён заслужыў павагу і любоў усіх вернікаў нашай парафіі. Мы дзякуем Пану Богу за дар Вашага жыцця, шаноўны ксёндз Алег, і за ласку спаткання з Вамі ў Шуміліне! Цяпер у Вас вялікая парафія, але і нас Вы не забываеце, заўсёды дапамагаеце нам у нашых патрэбах. Прыміце шчырыя словы падзякі за Ваша вялікае, добрае сэрца, за глыбокую веру і любоў да людзей, за змястоўныя казанні, за пабудову касцёла!

Дарагі ойча! Вы ўкаранілі ў нашы сэрцы любоў да Бога і дапамаглі ўзрастаць у пабожнасці. Вялікі дзякуй ад усіх хворых, да каторых Вы прыязджалі, удзялялі сакрамант намашчэння, адпраўлялі Імшы. Людзі з сардэчнасцю ўспамінаюць Вас. Калі ў нас былі праблемы, як дабрацца дадому, Вы заўсёды падвозілі нас, ніколі нікога не пакідалі без сваёй апекі.

Нізка кланяемся за крыж, каторы Вы паставілі ў аграгарадку Бабінавічы на месцы былога касцёла Святой Тройцы, дзе мы цяпер молімся а 18-й гадзіне. Мы заўсёды памятаем пра Вас у сваіх малітвах.

Дарагі ксёндз Алег! Вы заўжды застаняцеся нашым у нашых сэрцах. Мы любім Вас і запрашаем да сябе ў госці на парафіяльнае свята.

Няхай Добры Бог, Найсвяцейшая Панна Марыя не пакінуць Вас без сваёй апекі, хай прыносяць радасць і суцяшэнне, а агеньчык, запалены Панам Богам у Вашым сэрцы, няхай гарыць усё Вашае святарскае жыццё! Ад усяго сэрца жадаем Вам жыццёвай разважлівасці, Божай ласкі на кожны дзень, моцнага здароўя, шчодрай Божай дапамогі, добрых і зычлівых людзей побач!

Сардэчна дзякуем Вашым бацькам за выхаванне сыноўсвятароў. Няхай Добры Бог адорыць іх моцным здароўем, даўгалеццем, патрэбнымі ласкамі! Жадаем апекі Маці Божай Нястомнай Дапамогі!

***З павагай і ўдзячнасцю, парафіяне касцёла святога Айца Піа ў Лёзне***

# ПАЗНАВАЙКА
## Пазнаём Хрыста і Яго Касцёл

### Знайдзі лішні фрагмент

На малюнку ты бачыш хлопчыка, які моліцца за сваіх бацькоў і сяброў. Кожны фрагмент гэтага малюнка пазначаны лічбамі. Твая задача знайсці, які з фрагментаў лішні. ***Правільную лічбу лішняга фрагмента запішы тут*** ________.




### Разгадай словы

Ты даведаешся, што казаў каталіцкі святы Ян Марыя Віянэй пра малітву, калі выканаеш гэтае заданне. Будзь уважлівым і выпішы толькі кожную ДРУГУЮ літару ў рамачку, што знаходзіцца ўнізе.

Як ты разумееш сэнс выказвання, якое атрымалася?




### Падзякуй Богу

Ад твайго дома да Касцёла ідзе дарожка. Напішы ў кожнай стрэлцы, за што ты асабліва дзякуеш Богу ў малітве!



### Устаў словы, якіх не хапае

Разам са сваімі бацькамі прачытай у Евангеллі паводле Мацвея ў 21-ым раздзеле 22-і верш. Калі выканаеш гэта, устаў тыя правільныя словы з Бібліі,якіх не хапае ў хмарках.

І ўсё, чаго ………. ў малітве з вераю ……….

### Разблытай лабірынт

Чым для кожнага з нас з'яўляецца малітва? Адказ на гэтае пытанне атрымаеш, калі правільна разблытаеш лабірынт. Тое, што атрымаецца, запішы ў правільным парадку.




### Прыгожа размалюй

Каляровымі алоўкамі размалюй хлопчыка і дзяўчынку, якія прыйшлі да крыжа, каб памаліцца!



*Мастачка:* ***Вольга Будкіна;*** *ідэя:* ***Ірына Радзевіч***

# Як паступіць у семінарыю? Адкрыты набор кандыдатаў

**Міждыяцэзіяльная вышэйшая каталіцкая духоўная семінарыя імя св. Тамаша Аквінскага ў Пінску адкрыла прыём кандыдатаў на 2017/2018 навучальны год.**

Падчас іспытаў кандыдат павінен паказаць свае веды па асноўных тэмах з катэхізіса і актуальнага жыцця Каталіцкага Касцёла. **Уступны экзамен пройдзе 10 ліпеня** (пачатак – а 9.00-й гадзіне) і 10 жніўня (таксама а 9.00-й гадзіне) па адрасе: Брэсцкая вобласць, г. Пінск, вул. Леніна, 16. Можна прыехаць напярэдадні, загадзя паведаміўшы пра гэта па тэл.: 8 (0165) 65-41-45 або +375 (25) 604-41-86.

Семінарыя як вышэйшая навучальная ўстанова Рыма-Каталіцкага Касцёла дае неабходныя веды і развівае якасці, патрэбныя для плённага служэння людзям і Касцёлу ў якасці святара. У працэсе падрыхтоўкі семінарысты вывучаюць філасофскія і тэалагічныя прадметы, а таксама замежныя мовы і дапаможныя дысцыпліны, паведамляе рэктар семінарыі кс. Андрэй Рылка.

## Куды падаць дакументы?

**Рэктарат семінарыі:**
1 чэрвеня – 10 жніўня з 10.00 да 17.00 (акрамя нядзелі і ўрачыстасцяў), г. Пінск, вул. Леніна, 16, тэл.: 8 (0165) 65-41-45; +375 (25) 604-41-86; +375 (29) 727-31-98.

**Мінска-Магілёўская архідыяцэзія:**
па папярэднім запісе: 1 чэрвеня – 20 ліпеня з 10.00 да 17.00 (акрамя нядзелі і ўрачыстасцяў), г. Мінск, вул. Рэвалюцыйная, 1а, тэл.: +375 (29) 553-90-76 кс. Дзмітрый Пухальскі.

**Віцебская дыяцэзія:**
па папярэднім запісе: 1 чэрвеня – 20 ліпеня, тэл.: +375 (29) 884-54-82 кс. Мікалай Ціхановіч.

## Спіс неабходных дакументаў:

- уласнаручна напісаная заява аб прыняцці ў семінарыю з матывацыяй свайго рашэння;
- уласнаручна напісаная аўтабіяграфія, атэстат аб сярэдняй адукацыі альбо дыплом аб заканчэнні іншай навучальнай установы;
- пасведчанне аб сакраманце хросту;
- пасведчанне аб сакраманце канфірмацыі;
- пасведчанне аб удзеле ў катэхезе;
- характарыстыка ад пробашча;
- медыцынская даведка для паступлення ў ВНУ, пашпарт і яго ксеракопія (старонкі 31-33);
- ваенны білет (прыпісное пасведчанне) і яго ксеракопія;
- 4 фотаздымкі (3х4 см);
- кандыдат павінен быць католікам-практыкам (не менш за тры гады) і валодаць неабходнымі якасцямі для будучага святарскага служэння.



ДЫЯЦЭЗІЯЛЬНЫЯ ДНІ МОЛАДЗІ

16 ВЕЧАР - ЗАЕЗД УДЗЕЛЬНІКАЎ
17 КАНФЕРЭНЦЫІ, МАЛІТВА, ПАСІЛКІ, ЗАБАВЫ, МАГЧЫМАСЦЬ СПОВЕДЗІ
18 КАНФЕРЭНЦЫІ, МАЛІТВА, ПАСІЛКІ, ЗАБАВЫ, МАГЧЫМАСЦЬ СПОВЕДЗІ. ЗАКАНЧЭННЕ ДДМ
19 УРАЧЫСТАСЦЬ МАЦІ БОЖАЙ БРАСЛАЎСКАЙ

ЗАПРАШАЕМ МОЛАДЗЬ АД 14 ГОД НА ДДМ ВІЦЕБСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ
ЗАПІС АБАВЯЗКОВЫ І ТРЫВАЕ ДА 10 ЖНІЎНЯ

16-18 ЖНІЎНЯ
БРАСЛАЎ 2017

КОШТ УДЗЕЛУ 5 РУБЛЁЎ
ЗАПІС І ЎСЕ ПЫТАННІ: (ІМЯ) ТЭЛ:8(0..)...-..-.. E-MAIL: ..............

## Ці ёсць у вашых гаджэтах малітвы?

У сучасным свеце людзі вельмі часта карыстаюцца рознымі гаджэтамі.

У сённяшнім апытанні вернікі адказалі "Каталіцкаму Весніку", ці ёсць у іх мабільных тэлефонах, планшэтах дадаткі з хрысціянскімі малітвамі, разважаннямі, Біблія?

**Вынікі апытання на сайце Catholicnews.by і ў сацыяльных сетках: Facebook, Укантакце, Аднакласнікі:**

- так, ёсць – 161 адказ;
- няма – 27 адказаў;
- добрая ідэя! Трэба ўсталяваць – 27 адказаў;
- лічу, што карыстацца гаджэтамі для малітвы – дрэнна – 15 адказаў.

**Усяго – 230 адказаў.**



*Падрыхтавала Ірына Радзевіч*

**Дарагія сябры!**

**Ёсць магчымасць дапамагчы газеце "Каталіцкі Веснік" фінансава. Мы залежым толькі ад Вашых ахвяраванняў! Дашліце нам усяго 2 рублі, і мы Вам будзем вельмі ўдзячныя!**

**Каб даслаць ахвяраванне, не трэба нікуды ісці. Зрабіць гэта можна з дапамогай свайго мабільнага тэлефона, падзяліўшыся сваім балансам. Дасляць у якасці ахвяравання 2 рублі можна, зрабіўшы наступнае:**

**1. Адправце USSD-запыт наступнага зместу:**
***363*375295105172*2#**
**2. Вы атрымаеце на свой тэлефон USSD-паведамленне з кодам пацвярджэння.**
**3. Дашліце USSD-запыт наступнага зместу:**
***363*[код пацвярджэння]#**
**4. Вы атрымаеце пацвярджэнне паспяховай аперацыі з кароткага нумара 364. З балансу Вашага тэлефона будуць спісаныя 2 рублі.**

**Увага!**
**Максімальны памер аднаразовага ахвяравання можа складаць толькі 2 рублі. Каб даслаць большую суму, неабходна паўтарыць аперацыю.**

**Рэдакцыя можа атрымаць не больш за 10 рублёў за каляндарныя суткі. Калі Вам прыйшло паведамленне пра памылку, калі ласка, дашліце ахвяраванне яшчэ раз або паўтарыце яго на наступны дзень.**

**Вялікі дзякуй за ахвяраванні на падтрымку газеты "Каталіцкі Веснік"! За ўсіх ахвярадаўцаў кожны месяц адпраўляецца св. Імша. Будзьма разам! Няхай Добрая Вестка заўсёды будзе ў Вашым доме!**

*Рэдакцыя газеты "Каталіцкі Веснік"*

## Рэдакцыя дзякуе!

**Дарагія сябры!** Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае "Каталіцкі Веснік" сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі.

Свае ахвяраванні нам даслалі: **Алена Кукліна** *(Баравуха-1)*, **Часлава Яцына** *(Шаркаўшчына)*, **Ірына Сіманенка** *(Мосар)*, **Уладзіслаў Сычоў** *(Мінск)*, **Рэгіна Бука** *(Радзюкі)*, **Сафія Ласоўская** *(Радзюкі)*, **Галіна Міхалевіч** *(Мосар)*, **Яўген Балай** *(Мосар)*, **Даната Алейнік** *(Мосар)*, **Аліна Гірстун** *(Мосар)*, **Вераніка Люцікава** *(Мосар)*, **Станіслава Жук** *(Мосар)*, **Марына Кожух** *(Лазічы)*, **Станіслава Носка** *(Мосар)*, **Валянціна Курта** *(Луцк-Казлоўскі)*, **Аляксей Курта** *(Луцк-Казлоўскі)*, **Станіслаў Вышадка** *(Заваратцы)*, **Юзаф Павучонак** *(Сынадворцы)*, **Вольга Парневіч** *(Крулеўшчына)*, **Соф'я Чырвінская** *(Язні)*, **Галіна Каспяровіч** *(Мураваная Ашмянка)*, **Ядвіга Розель** *(Ашмяны)*, **Яніна Дулінец** *(Савуткі)*, **Соф'я Машара** *(Шаркаўшчына)*, **З.Н. Бугаева** *(Лынтупы)*, **Леанід Грыбач** *(Гомель)*, **Казіміра Сіндрэвіч** *(Падсвілле)*, **Вацлава Скрага** *(Падсвілле)*, **Наталля Гаўрыльчык** *(Падсвілле)*, **Ганна Гінько** *(Глыбокае)*, **Марыя Харнікава** *(Навасады)*, **Ірына Кончыц** *(Гомель)*, **І.Г. Кашчыц** *(Ашмяны)*, **Браніслава Апанасевіч** *(Вілейка)*, **Галіна Галуза** *(Падсвілле)*, **Яніна Шэнда** *(Зорка)*, **Ванда Дзенісенка** *(Гомель)*, **парафіяне з Ёдаў**.

Калі Вы хочаце дапамагчы "Каталіцкаму Весніку" сваімі ахвяраваннямі, дасылайце, калі ласка, іх праз Белпошту на ніжэйпададзены адрас:

***Місевіч Віктар Мар'янавіч***
***вул. Савецкая, 1***
***211793 г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выдання кожны месяц адпраўляецца св. Імша.

*Рэдакцыя "Каталіцкага Весніка"*


Каталіцкі ВЕСНІК
Газета Віцебскай дыяцэзіі

**Заснавальнік:** мясцовае рэлігійнае аб'яднанне "Віцебская дыяцэзія Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь"

**Выдавец:** рэлігійная місія "Дабрачыннае каталіцкае таварыства "Карытас" Віцебскай дыяцэзіі Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь"

**Галоўны рэдактар:** кс. Віктар Місевіч
**Тэхнічны рэдактар:** Дзмітрый Лупач
**Мастацкі рэдактар:** Леанід Юрык
**Рэдактар сайта:** Марына Сінкевіч
**Карэктары:** Юрась Бабіч, Алена Пажога

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты "Каталіцкі Веснік", перададзеная па каналах сувязі і надрукавана ў УПП "Віцебская абласная друкарня", г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4
Заказ 3774

Выходзіць адзін раз на месяц на беларускай і рускай мовах
Тыраж 3700 экз.
Аб'ём 4 друкаваныя аркушы, фармат А3
Афсетны друк
Падпісана ў друк 15.06.2017 г. у 11.55

**Юрыдычны адрас:** 210041, г. Віцебск, вул. Чкалава, д.52, корпус 1
Тэл./факс: 8(0212)25-29-31
**Адрас для карэспандэнцыі:** 211793, вул. Савецкая, д.1, г. Глыбокае, Віцебская вобл.
Тэл.: 8(029)736-53-07
e-mail: katalickivesnik@gmail.com
http://catholicnews.by

ISSN 2224-9621





Наш падпісны індэкс 63783

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1437 ад 5 красавіка 2011 года выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь